ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№ 3** (2301) 21 студзеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

*ГАЛІНА ДРЭВА МІЦКЕВІЧАЎ*

## ДЗЯДЗЬКА МІХАСЬ

**... "Быў ён братам нашага слаўнага пісьменніка — паэта Якуба Коласа, аднак пра Міхася Міцкевіча так мала вядома ў Беларусі. Толькі цяпер гэта заўважаюць і шукаюць спосабу папоўніць нястачу належнай інфармацыяй".**

*(Міхась ТУЛЕЙКА, зямляк і паплечнік Міхася МІЦКЕВІЧА па эміграцыі).*

Мой допіс не прэтэндуе на глыбокі аналіз жыццёвага і творчага шляху малодшага брата Коласа. Чытач пазнаёміцца з асноўнымі штрыхамі грамадскай дзейнасці як асобы, вернага і шчырага сына Беларусі, які любіў сваю Бацькаўшчыну, як нешта святое.

Перада мною альбом пра жыццё і творчы шлях Якуба Коласа, выданы народнай асветай у 1974 годзе. Складальнікі — супрацоўнікі Літаратурнага музея песняра Даніла Міцкевіч, Мікола Базарэвіч, Янка Курбека, Міхась Пратасевіч. Калі гаварыць коратка — аўтарам удалося сабраць адпаведныя ілюстрацыі і змястоўныя допісы да іх пра асноўныя даты жыцця паэта. На мой погляд, альбом — духоўная скарбонка для кожнага, хто глыбока паважае коласаўскую спадчыну, душою і сэрцам прыкіпеў да тых шырокіх прастораў Панямоння, маляўніча-казачных прасцягаў роднай Бацькаўшчыны, што так хораша, таленавіта проста і шчыра апісаны паэтам у вечна жывым помніку беларусам — "Новая зямля". Аднак у гэтай літаратурнай скарбонцы адсутнічае да канца коласаўская праўда, яго цяжкія жыццёвыя пуцявіны, падчас трагічныя. Досыць нагадаць, што ў 1922 годзе Якуб Колас востра выступае супроць прарасейскіх прадстаўнікоў у навуковых колах і змагаецца за стварэнне сваёй навуковай тэрміналогіі. Прымае ўдзел у беларускай антыбальшавіцкай арганізацыі Юрыя Лістапада. У дваццатыя гады ў Беларускай акадэміі навук зарадзілася беларуская нацыянальна-дэмакратычная плынь аднаўлення незалежнай Беларускай дзяржавы. Якуб Колас быў адзін з галоўных заступнікаў гэтага руху. Можна назваць і другія факты непакорнасці паэта камуністычнай ідэалогіі. Відаць, толькі вялікая папулярнасць Коласа ў народзе на Радзіме і далёка за яе межамі не давала магчымасці паслугачам "жалезнай рукі" знішчыць выдатнага нацыянальнага дзеяча, класіка беларускай літаратуры.

Антось Галіна (псеўданім дзядзькі Міхася) ішоў сцежкаю старэйшага брата да скону сваіх дзён. Нічога дзіўнага, што на 20-й старонцы альбома засталася белая пляма. Няма здымка Міхася Міцкевіча сярод яго братоў і сясцёр. У той час не дазвалялася гаварыць і пісаць тое, што не адпавядала існуючай ідэалогіі. Спявалі па нотах, якія спецыяльна пісаліся...

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**





**Удзельнікі фальклорнага тэатра танца "Карагод", які восем гадоў назад быў створаны пры Палацы культуры Мінскага тонкасуконнага камбіната. Праўда, тады ён называўся проста фальклорным калектывам, але яго чакала вядомасць у розных краінах свету і, можа, самае значнае — прызнанне на радзіме як сур'ёзнага і цікавага калектыву, які збірае, вывучае і даносіць да гледача беларускі фальклор, захоўвае сапраўды народную песню, танец, музыку. "Карагод" нядаўна вярнуўся з Канарскіх астравоў, ён носіць званне заслужанага калектыву Германіі, бо неаднойчы з поспехам выступаў у гэтай краіне.**

**Ведаюць фальклорны тэатр і ў Беларусі. Ён выступае па вёсках, дзе не толькі цешыць сваім мастацтвам, але і ўзбагачаецца сам. У праграме тэатра ёсць цыкл танцаў Мінскай вобласці, многа нумароў з Брэстчыны, фальклор са знікаючых вёсак Чарнобыльскай зоны.**

**Тэатр не проста выконвае народныя песні і танцы: на сцэне адбываецца прадстаўленне, дзе ўсё, як у вёсцы, на сялянскіх гульнях, на вячорках, дзе ў кожным нумары — аўтэнтычны фальклор. А гэта пераконвае ў сапраўднасці, непадробнасці таго, што нясуць сваім гледачам самадзейныя артысты.**

**Д. ЧАРАПОВІЧ.**

**Фота У. ШУБЫ.**

*ПЕРАД ФОРУМАМ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ*

## БАЦЬКАЎШЧЫНА І ДЫЯСПАРА: ЭВАЛЮЦЫЯ ЎЗАЕМААДНОСІН І СУЧАСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Узаемаадносіны беларускай дыяспары і Бацькаўшчыны абумоўлены развіццём нацыі і яе лёсам у розныя гістарычныя перыяды. Вядома ж, у сваю чаргу яны ўплываюць на самаўсведамленне народа, яго ментальнасць. Тое, што значная частка нацыі па эканамічных, палітычных, ваенных, рэлігійных і іншых прычынах пражывае за межамі Бацькаўшчыны, — адна з відавочных прычын гэтага. У выніку трох вялікіх па колькасці эміграцыйных хваляў на Захад (на рубяжы XIX—XX стагоддзяў, у міжваенны перыяд і пасля другой сусветнай вайны), інтэнсіўнага рассялення ў іншаэтнічных рэгіёнах Расіі, а затым СССР беларуская дыяспара (усходняя і заходняя) у розныя часы ахоплівала ад чвэрці да амаль што трэці нацыі. Такое сцвярджэнне заснавана на падліках, узятых са статыстычных даведнікаў, публікацый айчынных і замежных аўтараў. Пры гэтым, вызначэнне ў савецкі час тэрыторыі БССР як нацыянальна-дзяржаўнага ўтварэння без уліку этнічных межаў, што склаліся гістарычна, прывяло да пражывання беларусаў на сваіх спрадвечных землях у складзе суседніх саюзных рэспублік і Польшчы.

Палітыка царскай Расіі ў адносінах да эміграцыі з этнічных беларускіх тэрыторый вынікала з афіцыйнага непрызнання беларусаў як асобнага народа і стаўлення да эміграцыі як фактара паслаблення "коренного русского населения", павелічэння кошту мясцовай рабочай сілы. Таму на дзяржаўным узроўні выезд за межы краіны стрымліваўся, адсутнічала адпаведнае заканадаўства, імігранты ў новых краінах пасялення не мелі аніякай падтрымкі Бацькаўшчыны — прававой, маральнай, матэрыяльнай.

Нацыянальны ўціск беларускага народа ў складзе Расійскай імперыі, абумоўленая многімі прычынамі незавершанасць станаўлення беларускай нацыі вызначылі больш хуткую асіміляцыю яе эміграцыі (у параўнанні з эміграцыяй народаў-суседзяў).

Галоўная тэндэнцыя палітыкі царскага ўрада на рубяжы XIX—XX стагоддзяў характарызавалася заахвочваннем міграцыі з еўрапейскай часткі Расійскай імперыі на ўсход дзяржавы. Дзеля чаго? Каб каланізаваць гэтыя абшары праз засяленне іх "русским элементом", да якога адносілі велікаросаў, украінцаў і беларусаў (праваслаўнага веравызнання). Гэтаму спрыялі хуткае развіццё чыгуначнай сеткі як на тэрыторыі Беларусі, так і імперыі ў цэлым, больш актыўнае фарміраванне новага гаспадарчага ўкладу і рынкавых адносін, сталыпінская аграрная рэформа.

**(Працяг на 4-й стар.).**

# ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ, ФАКТЫ

*У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РБ*

## ПАМЯЦІ АБАРОНЦАЎ І АХВЯР

**Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб увекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў. У ёй прадугледжваецца да 1 лютага 1993 года падрыхтаваць і падаць на зацвярджэнне ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь узгодненыя з Міністэрствам фінансаў і Дзяржэканомпланам прапановы аб увекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў. У трохмесячны тэрмін неабходна падрыхтаваць і ўнесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы па стварэнню аўтаматызаванага банка даных "Кніга памяці грамадзян, загінуўшых пры абароне Радзімы і пацярпеўшых ад рэпрэсій 20—80-х гадоў", а да 1 красавіка 1993 года разам з Міністэрствам абароны распрацаваць і ўнесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб стварэнні спецыялізаваных вайсковых фарміраванняў для пошукавай работы ў сувязі з увекавечаннем памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў.**

*УСТАНОВЫ КУЛЬТУРЫ*



**На рэдкасць яркім і святочным стаў вечар, прысвечаны адкрыццю новага Палаца культуры ў Мар'інай Горцы. Удзел у ім прынялі многія вядомыя людзі рэспублікі. Сюды, на сваю радзіму, прыехаў Ігар Лучанок, а з ім — паэты, чыя творчасць звязана з імем кампазітара, папулярныя выканаўцы яго твораў, дзеячы спорту. Са сцэны гучалі ўжо вядомыя і новыя песні І. Лучанка, сам ён іграў на раялі, акардэоне, цымбалах.**

**У холе экспанаваліся работы беларускіх мастакоў, вырабы мясцовых народных майстроў.**

**НА ЗДЫМКУ: Палац культуры ў Мар'інай Горцы.**

*ПАСЛЯ ВІЗІТУ Ў КІТАЙ*

## ПЕРАСЯГНУЎ УСЕ СПАДЗЯВАННІ

**Па запрашэнню Старшыні Кітайскай Народнай Рэспублікі Ян Шанкуня Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч нанёс афіцыяльны візіт у Кітайскую Народную Рэспубліку з 8 па 12 студзеня 1993 года. Ацэньваючы яго вынікі, Станіслаў Шушкевіч сказаў, што візіт перасягнуў усе спадзяванні. Важнейшы вывад, які зрабілі для сябе члены дэлегацыі, на думку С. Шушкевіча, заключаецца ў тым, што вопыт правядзення рэформ у Кітаі мае надзвычайна вялікае значэнне для Беларусі. Гэта вопыт разумнага, паступовага пераўтварэння гаспадаркі і грамадства, у ходзе якога максімальна ўлічваюцца мясцовыя асаблівасці. Мы ў сваіх імкненнях часта спрабуем пераскочыць праз час і цераз сябе, хочам адразу ж стаць падобнымі на дзяржавы, якія ўкараняюць рынкавую эканоміку стагоддзямі. Ужо і наш вопыт паказаў, што, калі жаданні не спалучаюцца з магчымасцямі, нараджаецца хаос. У Кітаі якраз здолелі спалучыць імкненне да рэформ з гранічным улікам асаблівасцей краіны, традыцый народа.**

*ЗАЯВА С. ШУШКЕВІЧА*

## НЯМА ПАДСТАВЫ ДЛЯ ТРЫВОГ

**Беларусь мэтанакіравана праводзіць курс цывілізаванага і своечасовага вырашэння праблем нацыянальных меншасцей, імкнецца забяспечыць развіццё іх нацыянальных культур і рэлігій у адпаведнасці з Дэкларацыяй правоў чалавека, — такую заяву зрабіў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч у час сустрэчы з удзельнікамі канферэнцыі яўрэйскіх рэлігійных абшчын, якая адбылася ў Мінску.**

**Госці адзначылі, што рэспубліка з'яўляецца прыкладам для многіх дзяржаў у плане ўмацавання дружбы паміж народамі, якія пражываюць на яе тэрыторыі.**

**Станіслаў Шушкевіч запэўніў, што Беларусь і ў далейшым не дасць падставы для трывог за лёс нацыянальных меншасцей.**

*НЕЗВЫЧАЙНАЯ АКЦЫЯ*

## ХТО БУДЗЕ "БЕЛАРУСАМ ГОДА-93"?

**Рэдакцыя рускамоўнага штотыднёвіка "Белорусский предприниматель" абвясціла аб незвычайнай акцыі, якую мае намер правесці ў бягучым годзе пад дэвізам "За чысціню беларускай мовы".**

**Сутнасць гэтай ініцыятывы ў тым, што рэдакцыя будзе ўважліва сачыць за выступленнямі ў друку ў абарону беларускай мовы, а таксама беларускай мовай лідэраў партый і рухаў, членаў урада, дэпутатаў Вярхоўнага Савета РБ, бізнесменаў. Пасля падвядзення вынікаў будзе абвешчаны "беларус года".**

*НОВЫ МОСТ*



**Новы мост даўжынёй 225 метраў зноў звязаў у Віцебску берагі Дзвіны. Пабудаваны задоўга да вайны, у чэрвені 1944 года, ён быў выратаваны ад узрыву сяржантам Ф. Блахіным, чыё імя цяпер і носіць.**

**Будаўнікі мостаатрада, якія вялі работы па рэканструкцыі моста, уручылі эксплуатацыйнікам сімвалічны ключ ад новабудоўлі.**

**НА ЗДЫМКУ: так выглядае новы мост.**

*ДОЎГАЧАКАНАЕ ВЫДАННЕ*

## УСЁ ПРА ПІСЬМЕННІКАЎ

**Выйшаў з друку першы том бібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі", здадзенага ў выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" яшчэ ў 1986 годзе. Усе шэсць тамоў падрыхтаваны супрацоўнікамі Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі. У іх утрымліваюцца звесткі — як біяграфічнага, так і бібліяграфічнага характару — пра ўсіх беларускіх пісьменнікаў, паэтаў і аўтараў навуковых кніг ад Кірылы Тураўскага да сучасных маладых, незалежна ад іх нацыянальнасці, у тым ліку і беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў.**

*ПАЛІТЫЧНАЯ АРЫЕНТАЦЫЯ*

## БНФ: НАКІРУНАК — ЦЭНТР

**На чарговым пасяджэнні Сойму Беларускага народнага Фронту "Адраджэньне" былі заслуханы паведамленні і даклады Зянона Пазьняка, Юрыя Хадыкі, Вінцука Вячоркі, Уладзіміра Заблоцкага аб становішчы ў рэспубліцы і месцы БНФ на палітычнай карце. Па сутнасці, удакладнялася стратэгічная лінія на перспектыву. Большасць тых, хто выказваўся, хацелі б бачыць фронт рухам цэнтрысцкага напрамку, накшталт народных партый. З іншых пазіцый падыходзіць намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка, які больш схіляецца да хрысціянска-дэмакратычнага накірунку. Канчатковае слова — за з'ездам БНФ, дата правядзення якога будзе вызначана падчас наступнага Сойму.**

*"Мне здаецца, наогул не існуе гістарычнага погляду, які не меў бы нацыянальнага характару. "Беларускі погляд" не азначае, што мы будзем перапісваць гісторыю такім чынам, быццам усё, што датычылася Беларусі, было ў гісторыі добра, а астатняе — дрэнна. Калі мы гаворым аб нацыянальным падыходзе да вывучэння гісторыі, то маем на ўвазе: як тая ці іншая падзея спрыяла (або не спрыяла) развіццю Беларусі, якой была роля Беларусі ў еўрапейскай і сусветнай гісторыі.*

*Увесь час мы вымушаны былі вывучаць гісторыю Бацькаўшчыны "з чужога ліста". Прыгадайма: усё звязанае, напрыклад, з падзелам Рэчы Паспалітай, трактавалі адносна выгод Расіі, а не Беларусі. Расійскі, а не беларускі погляд быў і на выніка Брэсцкага міру 1918 года, Рыжскага дагавора 1921 года. А чаму мы не павінны сказаць, што ў 18-м годзе, згодна з Брэсцкім мірам, палову Беларусі аддалі пад нямецкае рабаўніцтва, — аднак падавалася гэта ўвесь час як вялікае шчасце для беларусаў... Можна прывесці ў прыклад і шмат гістарычных падзей, непасрэдна звязаных з іншымі краінамі, якія, тым не менш, аказалі прамы або ўскосны ўплыў на развіццё Беларусі, — хіба мы не павінны і ў гэтай сувязі мець свой, беларускі, погляд?.."*

*П. ШУПЛЯК, дэкан гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.*

*КОНКУРС ПРАЦЯГВАЕЦЦА*

## ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН БЕЛАРУСІ

**Надаўняе пасяджэнне конкурснай камісіі з удзелам прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі зноў не мела станоўчых вынікаў — не зацверджаны ніводны твор, які прэтэндуе стаць гімнам Рэспублікі Беларусь. А конкурс працягваецца амаль што год. Камісія праслухала і абмеркавала каля ста варыянтаў гімна.**

**На апошнім праслухоўванні, што адбылося ў канцы мінулага года, з 18 твораў засталося тры, якія заслугоўваюць увагі. Гэта "Пагоня" Максіма Багдановіча, "Магутны Божа" Наталлі Арсенневай і "Ваяцкі марш" Макара Краўцова. Але і яны нікога не задаволілі. Наогул, ніводзін з тэкставых варыянтаў не задавальняе камісію.**

**Пакуль што ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь гімна няма. Конкурс на дзяржаўны гімн працягваецца.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ГРУПА сяброў магілёўскага Дэмакратычнага клуба абвінаваціла свайго куміра — старшыню Магілёўскага гарадскога Савета Сяргея Габрусева ў злоўжыванні ўладай і асабістай нясціпласці. Галава горада незаконна атрымаў новую кватэру, будуе для сябе катэдж у прэстыжным раёне, купіў новы аўтамабіль. Без павагі ставіцца не толькі да сваіх супрацоўнікаў, але і да выбаршчыкаў. А на навагодні банкет, у якім прынялі ўдзел народныя выбраннікі, выдаткавана больш 1 мільёна рублёў.

БЕЛАРУСКАЯ каталіцкая грамада правяла "Свята беларускай Біблії". Адбылося яно ў сталічным Палацы прафсаюзаў і было прысвечана 475-годдзю скарынаўскай "Песні песням", што выйшла 9 студзеня 1518 года ў Празе. Тут жа, на выстаўцы, можна было і пабачыць арыгінал выдання — адзіны экземпляр кнігі, што захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

ДАГЭТУЛЬ беларускія газеты друкаваліся на паперы, што пастаўлялася з блізкага замежжа — у асноўным з Расіі. На чашніцкай папяровай фабрыцы "Чырвоная зорка" (Віцебская вобласць) выраблена першая партыя сваёй газетнай паперы — пробная. Па сведчанні спецыялістаў, якасць айчыннай паперы добрая.

ГРАШОВЫЯ даходы насельніцтва Беларусі за 11 месяцаў мінулага года склалі пад 300 мільёнаў рублёў. У параўнанні з такім жа перыядам 1991 года гэта больш у 7,4 раза.

Зводны індэкс цэн павысіўся са студзеня па лістапад 1992 года ў 11,6 раза.

СТАТУС беспрацоўнага маюць 9 тысяч мінчан. На біржу працы ў Мінску летась звярнуліся 28 тысяч чалавек. Толькі для кожнага пятага з іх удалося знайсці работу. На канец 1992 года колькасць рабочых вакансій складала амаль 3 тысячы месцаў.

АВАРЫЯ на Чарнобыльскай АЭС "каштавала" Расіі - 174 мільярды долараў, Украіне — 138 мільярдаў і Беларусі — 171 мільярд долараў. Па сённяшніх бюджэтах, Расія зможа сабраць сродкі за 8 гадоў, Украіна – за 28, а Беларусі спатрэбіцца 171 год.

ПАВОДЛЕ даных Міністэрства абароны Беларусі, колькасць вайскоўцаў, якія не прынялі прысягу 31 снежня 1992 года, складае каля 10 працэнтаў ад іх агульнай колькасці. Сярод асноўных прычын — мяркуемы ад'езд за межы рэспублікі, планаване звальненне ў запас.

КРЫМІНАЛЬНАЯ справа па фактах зводніцтва ўзбуджана супраць чатырох беларускіх выданняў. Могуць быць прыцягнуты да адказнасці хутчэй за ўсё спецыялізаваныя рэкламныя выданні, якія друкуюць аб'явы накшталт: "Інтымныя паслугі забяспечаным мужчынам".

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# КАР'ЕРА ПРАДПРЫМАЛЬНІКА. АНТОН СТУЛЬГІНСКІ

Гісторыя і бізнес. Ці правамоцна ставіць гэтыя паняцці побач? Бо слова ж бізнес гучыць сёння як пропуск у будучыню. Аднак сур'ёзны бізнес абапіраецца не толькі на капіталы. Імя і традыцыі значаць для яго не менш, чым банкаўскі рахунак. Напэўна, не выпадкова разам з адраджэннем прадпрымальніцтва ідзе вяртанне імёнаў Марозавых і Бахрушыных, Прохаравых і Харытоненкаў. Ці ёсць традыцыі ў беларускага бізнесу? Ці мае ён сваю гісторыю, ці мае права ганарыцца ёю? Лёс інжынера і прадпрымальніка А. Стульгінскага дапаможа адказаць на гэтыя пытанні.

Антон Стульгінскі належыць да новага тыпу арганізатараў капіталістычнай вытворчасці, такіх, як А. Круп, А. Нобель, Г. Форд, якія спалучалі ў сваёй дзейнасці бліскучае веданне тэхнікі і тэхналогіі і былі гатовы несці матэрыяльную адказнасць за свае рашэнні, праводзячы энергічную сацыяльную палітыку на сваіх прадпрыемствах і прымаючы актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці.

Ён паходзіў з дваран Ковенскай губерні, нарадзіўся ў 1851 годзе. Пасля заканчэння Шаўляйскай гімназіі атрымаў вышэйшую адукацыю на хімічным аддзяленні тэхналагічнага інстытута ў Санкт-Пецярбургу. Затым знаёміўся з папяровай вытворчасцю ў Германіі і Францыі, наведаў у Вене сусветную выстаўку 1873 года, кіраваў будаўніцтвам Бабінскай папяровай фабрыкі, пазней загадваў тэхнічнай часткай Краснасельскай папяровай фабрыкі.

У 1877 годзе князь Ф. Паскевіч запрасіў дваццацішасцігадовага інжынера на месца дырэктара-распарадчыка Добрушскай папяровай фабрыкі. З гэтага часу імя А. Стульгінскага непарыўна звязана з развіццём гэтага прадпрыемства і пераўтварэннем яго ў адно з буйнейшых і тэхнічна дасканалых не толькі ў Беларусі, але і ў Расійскай імперыі.

Да з'яўлення Стульгінскага тэхнічны стан фабрыкі быў убогім. Драўляныя пабудовы, дзве вадзяныя турбіны, якія залежалі ад узроўню вады, два паравыя катлы — такая была тэхнічная аснашчанасць завода драўлянай масы, заснаванага ў 1870 годзе ў маёнтку Добруш у Магілёўскай губерні. Пасля ўстаноўкі дзвюх машын пачалася вытворчасць нізкіх гатункаў паперы: абгортачнай, цукровай і запалкавай.

Паводле сведчання Стульгінскага, ён заўсёды трымаўся выбранага шляху: "дамагацца поспеху праз змяншэнне кошту вытворчасці, палепшваючы і ўдасканальваючы яе". Устаноўка ў 1895, 1900 і 1907 гадах яшчэ трох машын зрабіла Добрушскую фабрыку лідэрам папяровай прамысловасці Расіі. Фабрыка к гэтаму часу сканцэнтравалася на вытворчасці пісчых і друкарскіх папер усіх нумароў і сярэдніх гатункаў паштовых і газетных. Гадавая вытворчасць дасягнула ў 1913 годзе 10 тысяч тон на суму 3 мільёны рублёў. Па колькасці рабочых і гадавой вытворчасці яна займала трэцяе месца ў імперыі і была адзінай папяровай фабрыкай Паўночна-Заходняга раёна, дзе працавала больш тысячы чалавек.

Гаворачы пра Добрушскую фабрыку, часта даводзіцца ўпамінаць пра яе прыярытэт. Так, у 1889 годзе тут пачала працаваць першая ў Беларусі электрастанцыя. Усяго к 1915 году на фабрыцы дзейнічала 74 электраруханкі. Акрамя таго, больш 500 электралямпаў асвятлялі фабрычныя памяшканні, майстэрні, аптэку, бальніцу, лазню і кватэры адміністрацыі.

Дзякуючы намаганням Стульгінскага, у Добрушы з'явілася адна з першых цэнтральных тэлефонных станцый. Надзейная сувязь злучыла галоўную кантору фабрыкі і яе аддзяленні, станцыю Добруш, пошту, кватэры дырэктара, яго памочніка і майстроў.

Створаная пры фабрыцы лабараторыя магла кантраляваць усе стадыі вытворчасці і была аснашчана найноўшым айчынным і замежным абсталяваннем. Гэта была практычна першая ў Беларусі і адна з першых у Расіі лабараторый пры прыватнапрадпрымальніцкіх вытворчасцях.

Папера Добрушскай фабрыкі неадназова экспанавалася на міжнародных і айчынных выстаўках, двойчы, у 1882 і 1896 гадах, фабрыка ўдастойвалася вышэйшай узнагароды Усерасійскіх выставак — права адлюстроўваць на сваёй прадукцыі дзяржаўны герб.

Паспяховае вядзенне вытворчай і камерцыйнай дзейнасці не суправаджалася празмерным ростам кіраўніцкага апарату. У 1916 годзе тут было 1 400 рабочых і 45 служачых. Такім чынам, на аднаго прадстаўніка адміністрацыі прыпадаў прыкладна 31 рабочы. Наступная за ёю па гэтаму паказчыку Пензенская папяровая фабрыка мела суадносіны адпаведна 1 да 23.

Несумненную цікавасць выклікае і тое, як аплачвалася праца самога А. Стульгінскага. Ён не меў фіксаванага акладу і атрымліваў 10 працэнтаў ад прыбытку.

Але не толькі тэхнічнага і тэхналагічнага ўдасканальвання вытворчасці знаходзіліся ў цэнтры ўвагі А. Стульгінскага.

Пры фабрыцы існавалі бальніца і аптэка. Цяжкахворых з навакольных вёсак фабрычны ўрач, які меў у сваім распараджэнні экіпаж, быў абавязаны наведваць кожны дзень. Правам бясплатнай урачэбнай дапамогі і бясплатнымі лякарствамі карысталіся не толькі фабрычныя рабочыя, але і іх сем'і. Аптовы склад прадуктаў першай неабходнасці дазваляў рабочым набываць гэтыя тавары на 15-20 працэнтаў танней, чым у яўрэйскіх крамах. Дзейнічала фабрычная ашчадная каса з 5 працэнтамі гадавых. Пяцігадовы стаж на фабрыцы даваў права на атрыманне пры звальненні дапамогі ў суме месячнага заробку, памножанага на колькасць гадоў, прапрацаваных звыш пяцігадовага тэрміну.

Спачатку фабрыка пакрывала палавіну расходаў на навучанне дзяцей рабочых у народным вучылішчы, але пасля будаўніцтва ў 1885 годзе асобнага будынка першых вучняў прыняла фабрычная школа з чатырохгадовым курсам навучання. У Добрушы быў фабрычны хор і духавы аркестр, затое не было віноднага шынка.

Найбольш яркім прыкладам актыўнай сацыяльнай палітыкі стала ўстанаўленне на Добрушскай фабрыцы, дарэчы, упершыню ў Расійскай імперыі, васьмігадзіннага рабочага дня. Пры гэтым усім рабочым было пакінута тое ж жалаванне, якое яны раней атрымлівалі за 12-гадзінную работу. Ужо праз пяць месяцаў Стульгінскі адзначаў: "Я магу і павінен аддаць поўную справядлівасць, што рабочыя ў вышэйшай ступені сумленна абавязацельствы ўзамен зменшанага рабочага дня. У тэхнічных адносінах работы як якасна, так і колькасна ідуць, калі не лепш, то ва ўсякім выпадку, зусім не горш, чым раней". З гэтага часу ён нястомна прапагандуе васьмігадзінны рабочы дзень у фабрычна-заводскай вытворчасці, лічачы, што вынікі яго ўвядзення на Добрушскай фабрыцы "даказалі поўную магчымасць праводзіць гэтую рэформу менавіта ў нас у Расіі не толькі без значных ахвяр, але нават, у канчатковым выніку, з узаемнай карысцю як для работадаўцы, так і для рабочага".

Напомню, што добрушскі прадпрымальнік амаль на дзесяць гадоў апярэдзіў бальшавікоў, якія прапанавалі праграму з аналагічным патрабаваннем.

У 1905 годзе княгіня І. Паскевіч у памяць аб увядзенні на Добрушскай фабрыцы васьмігадзіннага рабочага дня ахвяравала 10 тысяч рублёў на заснаванне пры пецярбургскім тэхналагічным інстытуце стыпендыі імя інжынера-тэхнолага А.І. Стульгінскага. Працэнты з гэтага капіталу складалі памер штогадовай стыпендыі. Згодна з палажэннем, яна назначалася "аднаму са студэнтаў інстытута, без адрознення саслоўя і веравызнання". Прозвішча стыпендыята называў А. Стульгінскі.

Рабочыя адзначылі гэтую падзею па-свойму, паставіўшы на свае сродкі ў зале паккамеры ікону з нязгаснай лампадаю.

Цэнтрам навукова-тэхнічнай думкі дарэвалюцыйнай Расіі былі таварыствы, старэйшым і буйнейшым з якіх з'яўлялася Рускае тэхнічнае таварыства. А. Стульгінскі прымаў самы актыўны ўдзел у яго дзейнасці. Акрамя таго, ён быў пажыццёвым членам Таварыства тэхнолагаў. Артыкулы А. Стульгінскага публікаваліся ў айчынных і замежных тэхнічных часопісах.

З імем Стульгінскага таксама звязана стварэнне ў 1901 годзе Саюза папяровых фабрыкантаў у Расіі. Яго аўтарытэт быў такім высокім, што ён стаў першым старшынёй савета арганізацыі і на працягу ўсяго свайго жыцця пастаянна пераабіраўся на гэтую пасаду.

Антон Стульгінскі памёр 7 мая 1915 года. Кіраўніцтва фабрыкай перайшло да яго сына Генрыха Антонавіча. Паводле сведчання добрушскіх старажылаў, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі сям'я Стульгінскіх выехала ў Польшчу.

Безумоўна, А. Стульгінскі не быў тыповай фігурай прадпрымальніка свайго часу. Бо, напрыклад, у Віленскай губерні, паводле даных галоўнага фабрычнага інспектара І. Вульферта, толькі 8-9 працэнтаў загадчыкаў прамысловых установ мелі вышэйшую ці сярэднюю адукацыю. Аднак жыццё А. Стульгінскага, буйнога інжынера, выназодніка, арганізатара вытворчасці і грамадскага дзеяча, сведчыць аб наяўнасці ў Беларусі раней незвычайнай тэндэнцыі ў эканоміцы і навукова-тэхнічнай культуры. Стульгінскі — прадстаўнік новай сацыяльнай групы менеджэраў, у чыёй дзейнасці ярка праявіліся рысы цывілізатарскай ролі бізнесу, "капіталізму з чалавечым тварам".

**А. КІШТЫМАЎ,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі.**



ДА ВЫТОКАЎ ДУХОЎНАСЦІ

# АДРАДЖАЮЧЫ ІДЭІ ФІЛОСАФА

**Ідэі святога Рыгора Паламы — візантыйскага багаслова і філосафа, які развіваў праваслаўнае вучэнне аб творчай прыродзе чалавека, — пачалі ажыццяўляцца ў беларускім гарадку Заслаўі. Тут, у адным са старажытнейшых цэнтраў хрысціянскай культуры, адкрыты каледж, што носіць імя вялікага падзвіжніка.**

**Выхаванцы новай навучальнай установы будуць атрымліваць веды па рэлігійнай філасофіі, багаслоўю, хрысціянскаму мастацтву Візантыі, Старажытнай Русі і Беларусі. Яны будуць спецыялізавацца і ў галіне псіхалагічнай каардынацыі, вучыцца аказваць спецыяльную дапамогу дзецям і падлеткам, якія знаходзяцца ў экстрэмальных сітуацыях. Навучэнцы будуць таксама спасцігаць сучасныя і класічныя мовы.**

**У сваёй асветніцкай дзейнасці каледж ставіць мэтай злучыць хрысціянскія традыцыі і сучасную культуру. Такая праграма адпавядае структурным мэтам і духу Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, у структуру якога ён уваходзіць.**

**Паступаць у новую навучальную ўстанову можна пасля дзевятага класа. Залічвацца ж сюды штогод будзе не больш сарака чалавек. Гэта дазволіць весці гібкую адукацыйную палітыку, уводзіць новыя, яшчэ не апрабаваныя спецыяльнасці, такія, напрыклад, як хрысціянская культура, псіхалогія і сацыяльная работа і іншыя.**

**НА ЗДЫМКАХ: ідэі Рыгора ПАЛАМЫ адраджаюцца ў старажытным Заслаўі; першыя студэнты каледжа.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**



Рэдакцыя "Голасу Радзімы" атрымала ліст ад старшыні Беларускага цэнтральнага камітэта ў Вікторыі (Аўстралія) сп. Паўла Гуза з просьбай апублікаваць у нашай газеце "Зварот да Рады Міністраў і Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь".

Робім гэта з вялікім задавальненнем, мяркуючы, што думка нашых далёкіх суайчыннікаў знойдзе водгук не толькі ў вышэйшых асоб дзяржавы, але і ў шырокіх колах беларускай грамадскасці.

# ЗВАРОТ

## ДА РАДЫ МІНІСТРАЎ І ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Шаноўныя гаспадары.**

**На працягу амаль паўстагоддзя беларуская нацыянальна сьведамая эміграцыя з непахіснай верай у лепшую будучыню вольнай Беларускай рэспублікі шанавала і перахоўвала нацыянальныя гістарычныя і культурныя традыцыі.**

**Праз увесь час жыцьця на чужыне беларуская грамадскасьць не страціла пачуцьця сваёй еднасьці са шматпакутным беларускім народам і з гонарам несла ў шырокі сьвет інфармацыю пра барацьбу беларускага народу за права быць роўным паміж роўнымі ў сусьветнай сям'і народаў.**

**Нашы бел-чырвона-белыя сьцягі з гонарам шугалі на міжнародных канферэнцыях і з'ездах, на маладзёжных і скаўцкіх сустрэчах, на спартыўных спаборніцтвах, на публічных дэманстрацыях і на беларускіх нацыянальных урачыстасьцях.**

**З асабліва вялікай пашанай мы адносіліся і адносімся да гістарычнага сымбалю нашай слаўнай мінуўшчыны і самабытнасьці, да нашага гербу "Пагоня". Нашыя далёкія гераічныя продкі пакінулі нам "Пагоню" ў спадчыну, з пэўнымі гэральдычнымі формамі і прыкметамі, як пуцяводную паходню ў будучыню.**

**Гэты старажытны сьвяты сымбаль нашай незалежнасьці ніхто не мае права ні скажаць, ні пераіначваць, ні падмяняць.**

**Пагэтаму мы ўстрывожаны тым, што сучасны ўрад Рэспублікі Беларусь ужывае як герб Рэспублікі Беларусь выяву коньніка з Латарынгскім крыжам на шчыту, а гэта ні ў якім разе не "Пагоня". Сапраўдная старажытная "Пагоня" мае на шчыту Ярылаў Крыж, ці, як яго часам называюць, "двукрыжжа" з шасьцю роўнымі канцамі.**

**Нас дзівіць і непакоіць: што мае супольнага з нашай "Пагоняй" сымболіка далёкай ад Беларусі як культурна, так і гістарычна Латарынгіі? Нідзе і ніколі гэты Латарынгскі крыж не красаваўся на шчытах "Пагоні", ні Вялікага Княства Літоўскага, ні на "Пагонях" старажытных гербоў шматлікіх гарадоў Беларусі. Падобны да Латарынгскага крыж існуе ў сымболіцы Славакіі, таксама крыж Сьвятой Ефрасіньні Полацкай вельмі падобны да Латарынгскага крыжа, але не зусім такі. Аднак справа не ў гэтым, а ў тым, што ні Латарынгія, ні Славакія, ні Ефрасіньня Полацкая, ні тым болей князь Ягайла не мелі ніякага дачыненьня да геральдычнага фармаваньня "Пагоні".**

**Пагэтаму мы, прадстаўнікі беларускага замежжа, звяртаемся да вас, шаноўныя гаспадары з Рады Міністраў і Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, з заклікам: неадкладна пераглядзець гэтую справу і выправіць закраўшуюся недарэчную памылку дзеля захаваньня нацыянальнага гонару і гістарычнай спадчыны. Хопіць таго, што нашы суседзі з усіх бакоў абкрадалі нас на працягу стагодзьдзяў, давайце не будзем абкрадаць самі сябе!**

**На заканьчэньне трэба дадаць, што мы абсалютна ўпэўнены, што кожны нацыянальна сьвядомы беларус, незалежна ад свайго мейсца жыхарства, зьдзіўлены і заклапочаны гэтым незразумелым і недарэчным падыходам да нацыянальнай сымболікі.**

**Выказваем вам падзяку загадзе за пазытыўнае вырашэньне гэтага пытаньня!**

**Не забывайцеся, што воляй лёсу на вас узложана велізарная адказнасьць перад Гісторыяй Беларускай Нацыі!**

**Жыве Беларусь!**

Палк. Ул.Шнэк
За Беларускі Вызвольны Фронт.

А. Груша
За Фэдэральную Раду Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі.

П. Гуз
За Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі.

а. М.Гурыйс
Ад Парафіі Сьв.Апос. Пятра і Паўла, БАПЦ у Адэлаідэ

Інж.-Лейт. А.Шнэк
За Выканаўцоў БВФ "На Варце"

М. Нікан
БНР.

Р.Вейнак
За Беларускі Кааператыў у Мэльбурне.

Ул.Сідзярэвіч
Ад фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля

**Зацьверджана аднагалосна прысутнымі на ўрачыстай акадэміі, прысьвечанай 72-м угодкам Слуцкага паўстаньня, у Мэльбурне, Аўстралія, дня 29 лістапада 1992 года.**

*ПЕРАД ФОРУМАМ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ*

# БАЦЬКАЎШЧЫНА І ДЫЯСПАРА: ЭВАЛЮЦЫЯ ЎЗАЕМААДНОСІН І СУЧАСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Пасяленне соцень тысяч карэнных жыхароў Беларусі ў поліэтнічным асяроддзі, адарванасць ад роднага краю, уплыў рускай праваслаўнай царквы паскаралі іх асіміляцыю. Але ў параўнанні з заходняй дыяспарай на бытавым узроўні тут праяўлялася большая ўстойлівасць у захаванні роднай мовы, звычаяў, традыцый, сваёй этнічнай адметнасці (у адзенні, забудове, вядзенні гаспадаркі і інш.).

Першая сусветная вайна, рэвалюцыі 1917 года ў Расіі, нямецкая, а затым польская акупацыі Беларусі выклікалі значны адток насельніцтва на ўсход дзяржавы, абумовілі новую хвалю выезду ў замежныя краіны і спынілі рээміграцыю адтуль.

Афіцыйная палітыка савецкай улады вызначыла ў многім асаблівасці беларускай эміграцыі, яе характар і памеры, адносіны да новай улады і стан нацыянальнай свядомасці імігрантаў.

Па-першае, гэтая палітыка характарызавалася адмаўленнем грамадзянам у натуральным, законам гарантаваным праве выбіраць сабе месца пражывання, адсутнасцю прававога рэгулявання эміграцыі (толькі ў маі 1991 года Вярхоўны Савет СССР нарэшце прыняў закон аб выездзе і вяртанні ў краіну, але ўжо не паспеў увесці яго ў дзеянне). Так, усе гады савецкай улады выключалася магчымасць натуральнай эміграцыі, і гэтым тлумачыцца выбуховасць хваляў, звязаных, найперш, з экстрэмальнымі ўнутранымі і знешнімі ўмовамі (рэвалюцыя, войны). Калі ў 20-я гады яшчэ наглядалася эміграцыя для ўз'яднання сям'і, то ў 30-я — памкненне жыць стала за граніцай успрымалася таталітарнай сістэмай як варожасць да новага ладу жыцця. Пасля другой сусветнай вайны адной з праяў адмаўлення ў праве выбіраць месца пражывання стала абавязковая і нават прымусовая рэпатрыяцыя ваеннапалонных і гвалтоўна вывезеных на працу ў Германію. Апошнія дзесяцігоддзі афіцыйная ідэалогія сцвярджала, што савецкая ўлада выкараніла сацыяльна-эканамічныя, палітычныя і іншыя падставы для эміграцыі. Заходняя дыяспара ў гэты час папаўнялася толькі за кошт так званай "загсавай эміграцыі" — выезду беларусаў у сувязі з замужжам, а таксама ўз'яднаннем сямей.

Прымусовым спыненнем працэсу эміграцыі парушаліся правы чалавека, міжнародна-прававыя нормы і акты, у тым ліку і падпісаныя БССР. Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах рэспубліка падпісала ў 1968 годзе, ратыфікавала толькі ў 1973-м, але і да гэтага часу парушаецца яго артыкул аб праве на свабоду перамяшчэння (гэты пакт набыў сілу для БССР з 1976 года).

Па-другое, нацыянальная палітыка і адносіны новай улады да беларускай дзяржаўнасці, нацыянальнага развіцця выклікалі першую палітычную эміграцыю пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі (Рада і ўрад, вайсковыя фарміраванні БНР, кіраўніцтва партыі беларускіх эсэраў і інш.) і вялікую яе плынь пасля другой сусветнай вайны (БЦР, іншыя беларускія арганізацыі, установы і ваенныя фарміраванні, створаныя на акупіраванай немцамі тэрыторыі, частка інтэлігенцыі, святароў). У асяроддзі апошняй было нямала людзей, якія, па словах Ларысы Геніюш, "з болем ад'язджалі ў свет і толькі таму, што бесперспектыўнасць беларускай нацыянальнай працы пры Саветах была ім ведамая даўно".

Важкімі аргументамі для такіх высноў была занядбанасць нацыянальных праблем, вынішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі ў ходзе палітычных рэпрэсій 30-х гадоў.

Па-трэцяе, савецкая дзяржаўная палітыка спрыяла рассейванню беларускага этнасу па абсягах Саюза. Рознымі сродкамі стымулявалася, заахвочвалася дынамічная міграцыя ў іншаэтнічныя рэгіёны краіны (праз арганізаваную вярбоўку працоўных, грамадскія заклікі на новабудоўлі, асваенне цалінных зямель, прыродных рэсурсаў Сібіры і Поўначы). Дарэчы, была яна не заўсёды добраахвотная, як, прыкладам, прымусовыя высяленні падчас калектывізацыі і палітычных рэпрэсій 30-х гадоў, дэпартацыі 1939—1940 гадоў з заходняй часткі Беларусі, перамяшчэнне насельніцтва ў гады вайны, планавае размеркаванне выпускнікоў ВНУ і інш.

Магутныя міграцыйныя патокі, абумоўленыя найперш неапраўдана доўгім экстэнсіўным развіццём эканомікі СССР, непрыдатнасцю сістэмы да інтэнсіўных метадаў гаспадарання прывялі да пражывання мільёнаў людзей за межамі свайго этнасу, сур'ёзных дэфармацый у нацыянальным складзе шэрагу рэспублік і рэгіёнаў. Гэта, дарэчы, у цэлым адпавядала дзяржаўнай палітыцы збліжэння і зліцця нацый, а практычныя дзеянні па яе рэалізацыі вялі да уніфікацыі культурнага, духоўнага жыцця, вынішчэння нацыянальна-адметнага ва ўсіх сферах жыццядзейнасці народаў.

З 1959 па 1989 год колькасць беларусаў усходняй дыяспары (на абшарах Саюза) павялічылася з 17,6 да 21 працэнта і ахоплівала напрыканцы 80-х гадоў 2 мільёны 131 тысячу чалавек. На гэты час кожны пяты беларус у краіне пражываў за межамі Бацькаўшчыны. Гэта стала адной з прычын змяншэння долі карэннага насельніцтва ў складзе жыхароў Беларусі — за 30 год на 3,2 працэнта. Партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва рэспублікі не аказвала ніякай падтрымкі суродзічам у іншаэтнічных рэгіёнах Саюза ў выяўленні і задавальненні нацыянальна-культурных патрэб. Кампактныя асяродкі беларусаў не мелі сваіх суполак, таварыстваў, школ на роднай мове, друку. Пакаленні суродзічаў аказаліся адлучанымі ад свайго народа, яго гістарычна-культурнай спадчыны.

Палітыка савецкай улады, кіраўніцтва БССР у дачыненні да заходняй дыяспары вызначалася найперш ідэалагічнымі, палітычнымі матывамі — зарыентаванасцю на сусветную рэвалюцыю (памкненні да экспарту якой у розных формах былі характэрнымі амаль што да апошніх год), на пашырэнне камуністычных ідэй, лаяльнасці да савецкага ладу, "сацыялістычнай" сістэмы.

Савецкія партыйна-дзяржаўныя органы менш за ўсё дбалі аб нацыянальна-культурным жыцці замежных суродзічаў, а сувязі з імі разглядаліся пераважна як сродак у ідэалагічнай барацьбе. Такая палітыка сфарміравалася ў першыя паслярэвалюцыйныя гады і найбольш дакладна сфармулявана ў тэзісах ЦК КП(б)Б "Белорусское движение за кордоном" ад 16 кастрычніка 1925 года. Гэтая пастанова раскрывае сутнасць савецкай партыйна-дзяржаўнай палітыкі, якая праводзілася ў адносінах да эміграцыі амаль што да канца 80-х гадоў. У ёй прызнавалася неабходным з улікам прысутнасці значнай працоўнай эміграцыі ў Паўночнай Амерыцы наладжванне з ёю кантакта і "ажыццяўленне свайго кіраўніцтва праз мясцовую кампартыю і спецыяльна пасланых работнікаў". Адносна палітычнай эміграцыі вызначаліся меры па пашырэнню ў яе асяроддзі савецкага ўплыву, прыцягненню да супрацоўніцтва асобных груп і лідэраў. Была пастаўлена задача "працягваць работу па разлажэнню і drабленню беларускай эміграцыі, ні ў якім разе не дапускаць стварэння якіх бы то ні было беларускіх аб"яднанняў", бо гэта "затармозіць развіццё беларускага руху савецкай арыентацыі".

Гэтыя высілкі далі пэўныя вынікі, але найбольш істотна на пазіцыі тагачаснай палітычнай эміграцыі паўплывалі працэсы беларусізацыі, паспяховыя крокі па адраджэнню нацыянальнай культуры, ажыццяўленню палітыкі НЭПа. Таксама, як і прынятае ў ліпені 1923 года рашэнне Прэзідыума ЦВК СССР і БССР аб амністыі, якая ахоплівала не толькі сялян і "паходзячых з працоўнага асяроддзя" ўдзельнікаў антысавецкіх фарміраванняў 1918—1920 гадоў, але і беларускіх палітычных і культурных дзеячаў, членаў урада БНР і розных палітычных партый. Пры ўмове лаяльных адносін да савецкай улады гарантаваліся палітычныя правы і свабоды тым, хто жадаў вярнуцца ў БССР. З улікам усіх гэтых абставін частка ўрада БНР на чале з А. Цвікевічам пайшла на перамовы з адпаведнымі органамі Савецкай Беларусі аб роспуску гэтага ўрада. ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 14 жніўня 1925 года прызнаў магчымым правядзенне з гэтай мэтай канферэнцыі ў Берліне пры выкананні шэрагу ўмоў: папярэдняй, яшчэ да канферэнцыі, перадачы паўнамоцтваў БНР ураду БССР у форме дэкларацыі; прызнанні Мінска адзіным культурным і палітычным цэнтрам, на які павінен арыентавацца беларускі рух за мяжой; адмовы ад арыентацыі на Лігу Нацый. Берлінская канферэнцыя (кастрычнік 1925 года) прыняла ўсе ўмовы, і некаторыя вядомыя на эміграцыі лідэры вярнуліся ў Мінск. Гэта раскол быў адной з прычын затухання палітычнай дзейнасці беларускай эміграцыі, якая ў далейшым не змагла пераадолець рознагалоссі, супярэчнасці паміж рознымі групамі і плынямі.

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

**(Заканчэнне будзе).**

*НЕПРАЧЫТАНЫЯ СТАРОНКІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# ЧАМУ НЕ СФАРМАВАЛАСЯ БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА?

**АГУЛЬНАПРЫЗНАНА,** што ні адна нацыя не ў стане дасягнуць незалежнасці без стварэння ўласных узброеных сіл. Гэтая думка правільная ў дачыненні да сённяшніх падзей, тым больш слушнай яна з'яўляецца ў адносінах да таго суровага, пераломнага часу, калі ў крывавым змаганні адраджала сваю незалежнасць Польшча і на шлях самастойнага развіцця імкнулася стаць Беларусь. Добра разумеючы гэту ісціну, беларускія палітыкі на працягу 1917–1920 гадоў неаднаразова спрабавалі арганізаваць нацыянальную збройную сілу. Адна з такіх спроб звязана з дзейнасцю Беларускай вайсковай камісіі (1919–1921 гады).

Беларуская вайсковая камісія ўяўляла сабой орган па фарміраванню беларускіх узброеных адзінак у Войску Польскім. Прынцыповая дамоўленасць пра стварэнне такога органа была дасягнута 28 ліпеня 1919 года на сустрэчы ў Варшаве Начальніка Польскай дзяржавы Юзефа Пілсудскага з дэлегацыяй Цэнтральнай Беларускай рады Віленшчыны і Гродзеншчыны на чале з Браніславам Тарашкевічам. Дэлегаты, спасылаючыся на вядомую адозву польскага лідэра ад 22 красавіка 1919 года "Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага", звярнуліся да яго з просьбай падтрымаць намаганні беларускіх адраджэнцкіх колаў па стварэнню нацыянальнага войска як найважнейшага гаранта будучай дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. У пададзенай Ю.Пілсудскаму дэкларацыі і была выказана ідэя аб стварэнні Беларускай вайсковай камісіі. Персанальны склад камісіі меркавала вылучыць Цэнтральная Беларуская рада Віленшчыны і Гродзеншчыны, а дзейнічаць камісія мелася пры Галоўным камандаванні Войска Польскага. Прапаноўвалася надаць камісіі права падбіраць кандыдатуры на пасаду камандуючага беларускім войскам і іншыя афіцэрскія пасады (канчатковае зацвярджэнне іх пакідалася за польскім галоўнакамандаваннем). Абавязкам камісіі павінна было стаць "нацыянальнае гадаванне войска" (выхаванне ў афіцэраў і салдат адданасці справе беларускага Адраджэння), устанаўленне вайсковай формы і распрацоўка статутаў. На думку дэлегацыі, беларускае войска магло ваяваць у складзе польскай арміі толькі на беларускім фронце і не магло быць выведзена з тэрыторыі Беларусі. Як паведамлялі газеты, Ю. Пілсудскі станоўча ўспрыняў прапановы беларускіх дзеячаў, запэўніў, што будзе цвёрда прытрымлівацца праграмы, сфармуляванай у адозве да народаў былога Вялікага Княства Літоўскага і паабяцаў неадкладна аддаць вайсковым уладам загад пачаць у кантакце з Цэнтральнай Беларускай радай Віленшчыны і Гродзеншчыны арганізацыю беларускай збройнай сілы. Адразу ж пасля вяртання дэлегацыі з Варшавы, 2 жніўня 1919 года, Рада на сваім пасяджэнні ўтварае такую камісію. Аднак ва ўмовах наступлення польскай арміі на ўсход летам-восенню 1919 года чакаемы загад Ю. Пілсудскага аб фарміраванні беларускага войска затрымаўся на некалькі месяцаў. Камісія, некалькі разоў змяніўшы на працягу гэтага часу свой персанальны склад, не мела афіцыйнага статуса. Нарэшце, пасля серыі сустрэч старшыні камісіі П. Алексюка і іншых беларускіх дзеячаў з высокімі асобамі ў польскім кіраўніцтве, 22 кастрычніка 1919 года адпаведны загад быў падпісаны. Ім прадугледжвалася пачаць фарміраванне на добраахвотнай аснове беларускіх аддзелаў (напачатку 2 батальёнаў пяхоты — "strzelcow bialoruskich") у польскім войску і зацвярджалася Беларуская вайсковая камісія ў наступным складзе: Павел Аляксюк (старшыня), Антон Аўсянік, Аляксандр Прушынскі (паэт Алесь Гарун), Давыд Якубоўскі, Францішак Кушаль, Андрэй Якубецкі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Юстын Мурашка. Камандуючым беларускага войска прызначаўся прапанаваны камісіяй палкоўнік Г. Канапацкі, які таксама ўвайшоў у яе склад, але падпарадкоўваўся непасрэдна польскім ваенным уладам. Звяртае на сябе ўвагу адна акалічнасць: загад не даваў дакладнага вызначэння кампетэнцыі Беларускай вайсковай камісіі. З інтэрв'ю П. Алексюка газеце "Беларускае жыццё" (1919, 7 лістапада) бачна, што сама камісія брала на сябе абавязкі вербаваць добраахвотнікаў і ажыццяўляць "нацыянальнае гадаванне войска". У лістападзе 1919 года вайсковая камісія перанесла сваю працу з Вільні ў Мінск, дзе размясцілася ў 20 нумарах гасцініцы "Гарні" (прыкладна на перасячэнні сучаснага праспекта Ф. Скарыны і вул. Камсамольскай). Тут яна ўкамплектавала штат супрацоўнікаў (сярод служачых былі такія вядомыя беларускія дзеячы, як Францішак Умястоўскі, Тодар Вернікоўскі, па некаторых звестках, Змітрок Бядуля і іншыя), удакладніла сваю структуру. Было вылучана некалькі падкамісій: вярбовачна-агітацыйная (узначальваў П. Аляксюк), кваліфікацыйная (А. Якубецкі), статутная (А. Прушынскі), культурна-асветная (С. Рак-Міхайлоўскі) і інш. У Слоніме, дзе прадугледжвалася сфарміраваць першыя беларускія батальёны, пачалі рыхтаваць казармы для размяшчэння добраахвотнікаў. Паводле распараджэння віцэ-міністра вайсковых спраў генерала К. Саснкоўскага тут меркавалася арганізаваць таксама школу беларускіх падафіцэраў, разлічаную на 100 навучэнцаў, а ў Варшаве пры школе падхарунжых стварыць беларускі ўзвод. Спецыяльна падкрэслівалася, што выкладанне ў названых школах павінна быць пераведзена на беларускую мову, польскай дазвалялася карыстацца толькі да таго часу, пакуль не перакладзены вайсковыя статуты. У паветах Беларуская вайсковая камісія пачала ствараць свае вярбовачныя бюро. Сярод насельніцтва распаўсюджваліся адозвы з заклікам уступаць у нацыянальне войска для барацьбы за "волю, свабоду, незалежнасць і непадзельнасць нашай Бацькаўшчыны-Беларусі". У 1920 годзе выйшаў адзін нумар часопіса "Падарунак беларускаму жаўнеру".

Рэгістрацыя добраахвотнікаў (афіцэраў, салдат, ваенных чыноўнікаў, урачоў і г.д.) праводзілася ў Мінску, у рэгістрацыйным бюро камісіі. Зарэгістраваныя асобы накіроўваліся ў кваліфікацыйную падкамісію, якая вяла адбор кандыдатаў у беларускае войска. Афіцыйна былі аб'яўлены наступныя патрабаванні да кандыдатаў: прыналежнасць да беларускай нацыі, адпаведны ўзрост (для афіцэраў — да 45 гадоў, для салдат — да 40), веданне афіцэрамі беларускай мовы, прыхільнасць да ідэі незалежнасці Беларусі, пацверджаная рэкамендацыямі двух вядомых дзеячаў нацыянальнага руху. Але існавала яшчэ сакрэтная інструкцыя за подпісам старшыні кваліфікацыйнай падкамісіі А. Якубецкага, які ставіў у абавязак сваім падначаленым, у прыватнасці, збіраць звесткі пра жыццё кандыдатаў да вайны, у часе вайны, ва ўсе перыяды рэвалюцыі, высвятляць іх прыналежнасць да той ці іншай палітычнай партыі, "погляды на адраджэнне Бацькаўшчыны і думкі аб спосабе і сістэме ўтварэння Гаспадарства Беларускага". Кіруючыся такім строгім падыходам, Беларуская вайсковая камісія за час свайго існавання з 485 афіцэраў і ваенных чыноўнікаў, што падалі заявы, залічыла ў рэзерв толькі 272 чалавек, г.зн. амаль палову жадаючых адхіліла. Віленская беларуская газета "Незалежная думка" (1920, 8 чэрвеня) з гэтай нагоды іранізавала, што "ў беларускае войска цяжэй папасці, як у рай Магамета". У гэты ж час камісія спрабавала падпарадкаваць свайму кантролю некаторыя партызанскія атрады на тэрыторыі Беларусі, рабіла захады, каб вызваліць афіцэраў-беларусаў, якія былі ў свой час мабілізаваны ў Чырвоную Армію і трапілі затым у польскі палон.

Нягледзячы на прыкметную актыўнасць камісіі, справа арганізацыі беларускага войска рухалася марудна. 16 лютага 1920 года газета "Беларускае жыццё" паведамляла: "У бліжэйшыя тыдні пачнецца фармаванне двух батальёнаў". Як бачым, амаль праз 4 месяцы пасля адпаведнага дазволу Пілсудскага да непасрэднага фармаваня беларускіх баявых адзінак яшчэ не прыступалі. У чым тут прычыны? Відавочна, шукаць іх трэба не толькі ў характары працы самой камісіі (хоць і гэта, безумоўна, мела сур'ёзнае значэнне), але і ў знешніх абставінах, у якіх ёй даводзілася дзейнічаць. На польскай палітычнай арэне існавалі ўплывовыя сілы, не зацікаўленыя ў набыцці народамі Беларусі, Украіны і Літвы якой бы там ні было самастойнасці. Перспектыва ўмацавання беларускай дзяржаўнасці ў выніку стварэння нацыянальнага войска вельмі насцярожвала і тутэйшую спаланізаваную шляхту, абшарнікаў, якія баяліся страціць свае эканамічныя і палітычная пазіцыі ў краі. Шырока прадстаўленыя ў органах як цывільнага, так і вайсковага кіравання на Беларусі, гэтыя сілы мелі магчымасць істотна карэкціраваць палітыку польскага ўрада ў беларускім пытанні. Вынікам усяго гэтага было тое, што Беларуская вайсковая камісія была фактычна адхілена ад удзелу ў фарміраванні беларускіх узброеных адзінак. Распараджэннем таго ж генерала К. Саснкоўскага ад 16 сакавіка 1920 года было аб'яўлена, што Беларуская вайсковая камісія праз свае органы ўдзелу ў вярбоўцы і адборы добраахвотнікаў у беларускія аддзелы не прымае. У наступным месяцы палітычны інспектар Мінскай акругі Фастовіч-Загорскі пад грыфам "Scisle poufnie" ("строга сакрэтна") разаслаў паветовым старастам цыркуляр, якім абавязваў іх пільна сачыць, каб эмісары розных беларускіх арганізацый, што ўсё часцей курсіруюць па паветах, абмяжоўваліся толькі нацыянальна-культурнай працай; любыя спробы палітыка-дзяржаўнай прапаганды належала рашуча спыняць. "Асабліва трэба сачыць, —падкрэслівалася ў цыркуляры, — каб гэтыя агенты не праводзілі вярбовачнай агітацыі ў беларускія фарміраванні, бо гэта права належыць выключна Вярбовачнаму інспектарату Цывільнага ўпраўлення (Усходніх зямель. — **С.Р.**)". Такім чынам, вярбоўка і адбор добраахвотнікаў у беларускія вайсковыя аддзелы перадаваліся польскай адміністрацыі, якая фактычна байкатавала гэту справу. Добраахвотны прынцып набору таксама не спрыяў яе поспеху. Сітуацыя ўскладнялася пазіцыяй камандуючага беларускімі часцямі палкоўніка Г. Канапацкага. Ён настойліва падкрэсліваў сваю незалежнасць ад Беларускай вайсковай камісіі і падпарадкаванасць толькі польскаму камандаванню. У выніку канфлікту на гэтай глебе з П. Алексюком і іншымі членамі камісіі Канапацкі падаў у адстаўку, але новы камандуючы маёр Тунгуз-Завісляк вёў тую ж лінію. Усе гэтыя акалічнасці прычыніліся да таго, што да лета 1920 года пад эгідай камісіі ўдалося скамплектаваць толькі адну беларускую пяхотную роту ў Мінску. Пра яе ўдзел у баявых дзеяннях няма ніякіх звестак. У ліпені 1920 года пры эвакуацыі польскіх войск з Мінска ў сувязі з наступленнем Чырвонай Арміі Беларуская вайсковая камісія фактычна распалася.

Але на гэтым яе гісторыя не скончылася. Намаганнямі асобных яе членаў у кастрычніку таго ж года камісія была адноўлена ў горадзе Лодзь у новым складзе: Андрэй Якубецкі (старшыня), Францішак Кушаль, Францішак Умястоўскі, Эдмунд Якабіні і Давыд Якубоўскі. Зноў была дазволена вярбоўка добраахвотнікаў у беларускае войска. Ад гэтага перыяду працы камісіі захаваліся надзвычай цікавыя дакументы — рапарты яе вярбовачных агентаў, якія вялі агітацыю сярод сялян і местачкоўцаў Гродзеншчыны. Дакументы даюць уяўленне пра адносіны насельніцтва да ідэі беларускай дзяржаўнасці і стварэння нацыянальнага войска, а таксама пра перашкоды, якія стаялі на гэтым шляху. Вярбовачныя агенты сведчаць, што людзі, як правіла, сустракалі іх прыхільна, з цікавасцю выслухоўвалі. Адзначаюць узрастанне папулярнасці лозунга аб незалежнай Беларусі пасля таго, як насельніцтва расчаравалася і ў польскіх уладах, і ў бальшавіках. Часта жыхары вёсак і мястэчак распытвалі, дзе можна дастаць беларускія газеты і часопісы, прасілі прыслаць настаўніка для сваіх дзяцей. Аднак у некаторых месцах выказвалі сумненні, гаварылі, што "беларускае правіцельства — неафіцыяльнае", прад'яўлялі прэтэнзіі, "чаму няма міністэрства ніякага і чаму па гмінах правяць польскія войты і жандары, чаму беларусы не робяць сваіх камітэтаў валасных і чаму пазваляюць палякам рабіць у сялян рэквізіцыю". У цэлым людзі з разуменнем ставіліся да справы беларускага войска, але на канкрэтныя прапановы запісацца добраахвотнікамі звычайна ўхіляліся ад прамога адказу, абяцалі "падумаць". Некаторыя раілі правесці прымусовую мабілізацыю, бо пры добраахвотным прынцыпе набору цяжка разлічваць на поспех. І сапраўды, агенты дакладвалі, што звычайна ўдавалася завербаваць адзінкі, у лепшым выпадку — дзесяткі чалавек. З рапартаў бачна таксама, што на Гродзеншчыне, як і раней на Міншчыне, органы ўлады не спрыялі беларускім вярбовачным агентам, часам нават затрымлівалі іх, ставілі пад сумненне само існаванне Беларускай вайсковай камісіі. Вартым увагі штрыхом дапаўняе агульную карціну агент В. Курбека, які вёў працу ў Верцялішскай і Жыдамлянскай валасцях Гродзенскага павета. У сваім рапарце ад 20 лістапада 1920 года ён паведамляў: "Шмат шкодзяць вярбоўцы агенты Балаховіча, каторых вельмі шмат раз'язджае па ўсходняй частцы Гродзенскага павета. Яны вельмі лоўка арыентуюцца: дзе сяляне неасведамленыя (як, напрыклад, было ў вёсцы Курнікі), гавораць аб "единой и неделимой" (Расіі. — **С.Р.**), а дзе больш-менш свядомыя — аб незалежнай Беларусі".

Лепей ішлі справы з падрыхтоўкай беларускіх афіцэраў. На пачатку лістапада 1920 года, як паведамляла газета "Наша ніва" (1920, 12 лістапада), у афіцэрскай школе ў Варшаве скончылі навуку 27 свядомых беларусаў, выдзеленых у школе ў асобную групу. 60 былых афіцэраў расійскай арміі, беларусаў па нацыянальнасці, прайшлі спецыяльныя інструктарскія курсы. У Лодзі 80 беларусаў скончылі падафіцэрскую школу.

Але тым часам у Рызе пачаліся мірныя перагаворы паміж Польшчай — з аднаго боку і Савецкай Расіяй і УССР — з другога. Падпісанне перамір'я, а затым Рыжскага мірнага дагавора зрабіла неактуальнай для польскага боку арганізацыю беларускіх узброеных фарміраванняў. Беларуская вайсковая камісія яшчэ некалькі месяцаў існавала ў Лодзі, займаючыся пераважна культурна-асветнай працай сярод вайскоўцаў-беларусаў. 15 мая 1921 года рашэннем польскіх улад яна была скасавана.

Такім чынам, няпэўнасць і зменлівасць лініі польскіх улад у пытанні стварэння беларускіх узброеных адзінак, негатоўнасць шырокіх мас насельніцтва Беларусі, стомленага і абяскроўленага шматгадовымі войнамі, актыўна падтрымаць адпаведныя намаганні сваіх палітыкаў, а таксама празмерна строгая селекцыя Беларускай вайсковай камісіяй добраахвотнікаў прывялі да няўдачы ў справе арганізацыі ў 1919–1921 гадах беларускіх нацыянальных часцей у польскім войску.

**Станіслаў РУДОВІЧ.**

**Урыўкі з кнігі вядомага польскага мастацтвазнаўцы і гісторыка культуры Анджэя Цеханавецкага "Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме", што ў хуткім часе ўбачыць свет у новай выдавецкай серыі "Свет — пра Беларусь", хацелася б прапанаваць усім, хто цікавіцца мінуўшчынай роднага краю, яе культурай і мастацтвам.**

**У прадмове да кнігі, акрэсліваючы яе задуму, А.Цеханавецкі пісаў: "З пажоўклых лістоў архіва паўстае перад намі захапляючы воблік двара Агінскіх у Слоніме з яго філіяламі ў Седльцах і Целяханах. Яны сведчаць нам, што гэтая сяліба, пра якую, на жаль, да сёння вельмі мала вядома, без сумнення належыць да самых цікавых у Рэчы Паспалітай". Паклаўшы ў аснову даследавання аналіз мастацкага жыцця аднаго з яркіх і самабытных культурных цэнтраў Беларусі — слонімскую рэзідэнцыю гетмана Агінскага, параўноўваючы яе з іншымі падобнымі культурнымі цэнтрамі ў Беларусі, Рэчы Паспалітай і Заходняй Еўропе ў святле новых дакументаў, расшуканых ім у архівах Агінскага, А.Цеханавецкі пераканаўча сведчыць, што "Палескія Афіны" (музычны палац Агінскага ў Слоніме. — У.С.), якія размяшчаліся нібыта на перыферыі культурнай Еўропы, узвысіліся да ролі першаступеннага музычнага цэнтра,.. сталі адным з важнейшых месцаў культурнай дзейнасці часоў Станіслава Аўгуста, якая для сучаснай Беларусі можа служыць падставай для законнай гордасці".**

**Аднак А.Цеханавецкі выдатна разумее, што яго кніга, выдадзеная на нямецкай мове (Кёльн, 1961 г.), покі яшчэ не знайшла таго чытача, якому была адрасавана, што будзе ў ёй зацікаўлены больш за ўсё. Таму ў час свайго візіту ў Беларусі (1988 г.) ён робіць захады аб перакладзе яе на беларускую мову. Пра разуменне неабходнасці давесці кнігу да беларускага чытача, турбуючыся, каб як мага хутчэй распачаць гэтую справу, А.Цеханавецкі пісаў аўтару гэтых радкоў: "Спадар-калега добра разумее, як я зацікаўлены ў выданні гэтай кнігі: зраблю ўсё, што змагу, каб толькі распачатую з майго благаслаўлення панам працу давесці да шчаслівага канца". Цяпер пажаданні яе аўтара збываюцца. Неўзабаве кніга А.Цеханавецкага ўбачыць свет на паліцах нашых кнігарняў і стане набыткам таго чытача, якому яна больш трыццаці гадоў таму назад прызначалася.**

**Уладзімір САКАЛОЎСКІ.**

# СЛОНІМСКІЯ АНСАМБЛІ І ІХ АРТЫСТЫ

Слонімскі аркестр і опера карысталіся заслужанай славай ужо ў сучаснікаў (а тым больш у нашчадкаў), як ансамблі самага высокага мастацкага ўзроўню. Найбольш дакладна выказаў гэта, мабыць, Каятан Вянгерскі ў адным са сваіх дасціпных і крыху панегірычных вершаў "Да Агінскага, Вялікага гетмана Літоўскага".

А.Анджыеўскі, які ў 1798 годзе юнаком наведаў пакінуты ўжо Слонімскі палац і руіны мясцовых ансамбляў, крыху перабольшваючы (што характэрна для тых, хто ўспамінае блізкае і так беззваротна адышоўшае ў небыццё мінулае, калі яно ўжо страціла ўвесь свой бляск і цяпер наводзіла толькі маркоту), пісаў, што слава Слоніма, пэўна, была большай, чым слава Нясвіжа. "Тут побач з праявамі вышэйшай цывілізацыі XVIII стагоддзя надзейна захоўваліся страх перад Богам і звычаі мінулых часоў. Слонім быў калыскай і цэнтрам навукі і прыгожых мастацтваў, духоўным прытулкам прыгнечанага чалавецтва. Музыка Агінскага стваралася выдатнымі майстрамі. Пешка і Рустэм выпеставалі тут свой талент. Ва ўсім адчувалася тут раскоша, арыстакратызм, шчодрасць, але перш за ўсё панавалі памяркоўнасць і вера. Гэта быў незвычайны дом, які і да сёння высока цэніцца ў Літве". Нядаўна І.Бэлза, вядомы рускі музыказнаўца, і Т.Струміла ў прадмове да лістоў М.К.Агінскага адзначылі высокі і па-сапраўднаму еўрапейскі ўзровень мастацкай культуры, што пышна квітнела ў рэзідэнцыі гетмана.

Аднак цяпер неабходна такую агульную ацэнку дапоўніць больш дэталёвым узнаўленнем гісторыі асобных перыядаў Слонімскага аркестра, разгледзець яго асабовы склад, паспрабаваць падаць гісторыю развіцця вакальных ансамбляў, тэатра і балета. Матэрыялы для гэтага даюць у першую чаргу так званыя "Рэестры аплаты", што захаваліся ў вялікай колькасці. Гэта рэестры ці спісы акладаў музыкантаў, якія працавалі ў Слоніме. У якасці дадатковага матэрыялу можна далучыць рахункі, квітанцыі і іншыя выпадковыя архіўныя матэрыялы.

Першым аркестрам у Слоніме, вядомым на падставе гістарычных крыніц, была музычная трупа з 12 асобаў, арганізаваная пад кіраўніцтвам капельмайстра Майзнера (Майснера). Яе нешматлікі склад і нізкія заробкі (108 злотых у месяц для капельмайстра і па 18 злотых для іншых) былі якраз вынікам працяглай адсутнасці Агінскага ў Слоніме, што яскрава выяўляе назва дакумента, з якога мы чэрпаем гэтыя звесткі. Пэўна, дзіўным здасца той факт, што ансамбль усё ж не распускаўся, а ў чаканні на прыезд гетмана працягваў аплачвацца з-пад Нявы. У гэты перыяд паміж Агінскім і Станіславам Аўгустам, які на пачатку свайго праўлення імкнуўся стварыць значныя ўласныя аркестр і оперны ансамбль, на падставе агульнай цікавасці да музыкі назіралася пэўнае збліжэнне. Як вядома, фінансавыя цяжкасці прымусілі, аднак, караля адмовіцца ад гэтых планаў. На зваротным шляху з Пецярбурга Аляксандра Агінская 31.7.1765 года пісала яму з Гродна: "Музыка да Буры" (La Tempete) прыбудзе з намі. Я бяру на сябе абавязак пра гэта прыгадаць свайму мужу". Тут гаворка ідзе, мабыць, пра партытуру адной са шматлікіх операў пад такой назвай, якую кароль хацеў атрымаць у часовае карыстанне.

Пра наступныя гады ў нас няма адпаведных звестак, аднак можна меркаваць, што жыццё гетманскага двара, як ужо вышэй адзначалася, канцэнтравалася тады, галоўным чынам, у Нябораве. Нам толькі вядома, што каля 1770 года спектаклі Слонімскага тэатра былі пастаўлены на сцэне-караблі, што плыў па каналу. У іх, безумоўна, удзельнічаў вялікі аркестр. Аднак нам здаецца сумніцельным тое, што ён перажыў гады эміграцыі гетмана, гады эканамічных і фінансавых цяжкасцяў, секвестрацый і разграблення. Хутчэй за ўсё, можна меркаваць, што на рубяжы 1774–1775 гадоў, пасля вяртання на радзіму, гетман па-новаму арганізаваў сваю "сядзібу музаў". Ва ўсякім выпадку ў 1776 годзе ў Слоніме ўжо быў значны ансамбль, агульнай колькасцю з 53 музыкантаў-спецыялістаў інструментальнай і вакальнай музыкі. Дырыжораў было двое — канцэртмайстар Юзаф Паўлі і капельмайстар Алясандро Данезі, які праславіўся сваёй пазнейшай дзейнасцю ў Нясвіжы. Гэты ансамбль на працягу двух гадоў заставаўся практычна без істотных зменаў, толькі некалькі асобаў, хутчэй за ўсё спевакі, пакінулі яго. На іх месца 1.11.1777 года былі прыняты Міхалоўская і Плянцоўна. Штомесячны заробак складаў 15 дукатаў (у Паўлі), па 12 (у Данесі, выдатных скрыпачоў Кіпрыяні, Стэфані і некаторых іншых), па 10 і 9 дукатаў (сярод іншых і "квартвіялісту" Райскаму) да самага нізкага ў 2 дукаты. Часам ён быў яшчэ ніжэйшым. Спявачкі зараблялі, галоўным чынам, ад 3 да 5 дукатаў. Надзвычай высокі ганарар, менавіта 19 дукатаў у месяц, атрымоўваў Франкот, несумненна спявак, магчыма італьянскі кастрат, якога Ю.Нямцэвіч бачыў у Слоніме. Добра плацілі таксама настаўніку італьянскай мовы Нікаліні. Некаторыя артысты, акрамя таго, атрымлівалі яшчэ пэўныя сумы "на стол", гэта значыць грошы для пакрыцця выдаткаў на харчаванне.

Нацыянальны склад Слонімскага ансамбля таксама паказальны. Іншаземцы сустракаліся тут рэдка: да іх складу належалі, галоўным чынам, вядомыя спецыялісты. Гэта былі дырыжоры і інструменталісты (немцы, чэхі) ці спевакі (італьянцы). Значную ж большасць ансамбля складалі мясцовыя людзі. Вядома, набіраліся яны часткова з прыгонных ці з кліентаў гетмана, якіх ён аддаваў вучыцца. Аднак сярод іх былі таксама і прафесійныя музыканты, якія раней працавалі ў складзе іншых прыдворных ансамбляў у Ружанах ці ў Нясвіжы. У гэтых адносінах найбольш значны абмен, мабыць, існаваў паміж музыкантамі Слоніма і Нясвіжа. Кароль Радзівіл "Пане каханку" пасля Барскай канферэнцыі знаходзіўся ў эміграцыі даўжэй, чым Агінскі, і няма нічога дзіўнага, што ў 1775 годзе часткова расфарміраваны Нясвіжскі аркестр узмацніў Слонімскі ансамбль, які хутка адраджаўся. Аднак калі Радзівіл вярнуўся на радзіму, ён зноў пачаў аднаўленне сваёй "сядзібы музаў". Гэта прывяло да шматлікіх ускладненняў, як, напрыклад, у выпадку з "квартвіялістам" Райскім. Апошні многія гады быў у Слоніме і высока цаніўся Агінскім. Калі ж у 1780 годзе Радзівіл запатрабаваў вярнуць Райскага, гетман стараўся схіліць віленскага ваяводу, каб ён змяніў сваё рашэнне, і ў той жа час імкнуўся растлумачыць яму, што страта Райскага прынесла б "шкоду ўсяму аркестру", бо "гэты чалавек ужо прайшоў тут школу. Іншы, хто прыйдзе на яго месца, вымушаны будзе гадамі практыкавацца, каб набыць такія навыкі ігры, якімі валодаў ён, таму што метад, пры дапамозе якога я выяўляю сваю музыку, моцна адрозніваецца ад метадаў усіх іншых аркестраў". І далей ён сцвярджаў, што праца Райскага ў Слоніме "садзейнічала б развіццю яго таленту". Між іншым, усё гэта не змагло пераканаць Радзівіла, і Райскі вымушаны быў вярнуцца ў Нясвіж. Гэтая перапіска не толькі сведчыла пра пераходы артыстаў з аднаго магнацкага палаца ў другі, яна ў пэўнай ступені цікавая яшчэ і тым, што паказвала нам асабістую зацікаўленасць гетмана да свайго аркестра і існаванне ў ім пэўнага напрамку, які ён сам фармаваў.

**Анджэй ЦЕХАНАВЕЦКІ.**

**(Заканчэнне будзе).**

БЕЛАРУСЫ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

# "РОКАШ" НА КАЗАХСТАНСКАЙ ЗЯМЛІ

Было гэта ўжо даўнавата, а больш дакладна — ў час работы другога з'езду Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Адзін за другім выходзілі за трыбуну прамоўцы, гаварылі аб самым хвалюючым, набалелым: трэба шырэй разгортваць працэс нацыянальнага Адраджэння, вяртаць да жыцця родную мову, выхоўваць у беларусаў, іх дзяцей пачуццё нацыянальнай годнасці.

Цішыня запанавала ў зале, калі старшынствуючы аб'явіў: "Слова мае падпалкоўнік Станіслаў Суднік, які прыехаў з Казахстана". Мне і да таго прыходзілася чытаць пра С. Судніка, кіраўніка суполкі ТБМ горада Прыазёрска Джэзказганскай вобласці. А цяпер вось ён — падцягнуты афіцэр выступае перад сваімі аднадумцамі на чысцейшай беларускай мове.

З таго, што гаварыў С. Суднік, найбольш зацікавіла паведамленне аб стварэнні ў горадзе Алма-Аце беларускага культурнага цэнтра. Расказаў ён аб дзейнасці ўзначальваемай ім суполкі, членамі якой з'яўляюцца пераважна вайскоўцы-беларусы. Выказаў падзяку тым, хто прыслаў падручнікі для беларускай нядзельнай школы. А яшчэ сказаў, што суполка нават выдае сваю газету, і ён гатовы ўзяць на сябе клопат выслаць экземпляр гэтага незвычайнага выдання, калі хто з прысутных пажадае.

У перапынку цяжка было падступіцца да падпалкоўніка. Яго бралі ў "палон" журналісты, работнікі тэлебачання. Урэшце я выбраў момант і перадаў Судніку лісток паперы з адрасам лагойскай "раёнкі". Аднак праходзіў час, а адказу на просьбу не паступала, думалася, няўжо Суднік забыўся на сваё абяцанне. Ды ўсё ж сумненні мае аказаліся дарэмнымі: атрымаў я з Казахстана абяцаны нумар газеты пад крыху дзіўнай назвай — "Рокаш". Слова гэта, як я высветліў, мае даўняе паходжанне і ўжывалася ў значэнні — магутны ўздым народнага гневу, перад якім не маглі ўстаяць цёмныя, варожыя народу сілы.

Пра што ж паведамляў той нумар газеты? На першай старонцы быў змешчаны зварот культурнага асяродка "Беларусь" г. Алма-Аты да беларусаў свету. Гаворка ішла пра тое, што трэба дастойным чынам адзначыць маючае адбыцца 250-годдзе з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі — "сына беларускай зямлі, героя вайны 1776–1782 гадоў за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі, нацыянальнага героя Польшчы, ганаровага грамадзяніна Францыі". Ён заслужыў, гаварылася ў звароце, каб цяперашнія пакаленні гэтых народаў адзначылі юбілей "сына свабоды" адпаведна яго слаўным справам.

З не меншай цікавасцю прачытаў я і астатнія матэрыялы нумара, асабліва заметку "Нядзельная школа. Праца працягваецца". У горадзе Прыазёрску паспяхова дзейнічае беларуская нядзельная школа. Заняткі ў ёй наведваюць 40 вучняў, створаны тры ўзроставыя групы — з 2 па 9 клас. Дзеці займаюцца з задавальненнем, у малодшай групе другакласнікі "чытаюць па-беларуску без акцэнту". "Пасля некалькіх гадоў нашай школы, гаворыцца ў той заметцы, у Беларусь вернуцца дзеці больш нацыянальна свядомыя, чым многія сённяшнія кіраўнікі Рэспублікі Беларусь".

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**



**Усё нязвыкла ў гэтым спектаклі. У ім усяго чатыры дзеючыя асобы: Манекен, Балерына, Кантрабас, Кампазітар. Імя драматурга, які даў жыццё персанажам, мала каму знаёма, акрамя спецыялістаў. П'есы Патрыка Зюскінда ніколі не ставіліся ў былым Саюзе, хаця і ў сябе дома, у Германіі, і наогул ў Заходняй Еўропе ён даўно ўваходзіць у лік прызнаных мэтраў драматургіі.**

**— "Кантрабас" — спектакль пра чалавека, якому да ўсяго ёсць справа і які за ўсё вельмі моцна перажывае і пакутуе, прапускаючы праз уласнае сэрца, — расказвае рэжысёр Мінскага тэатра-студыі Рыд Таліпаў. — Такім людзям заўсёды жыць намнога складаней, чым іх сучаснікам, якія навучыліся прыстасоўвацца да любых абставін.**

**Акцёр тэатра імя Янкі Купалы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Віктар Манаеў і народная артыстка рэспублікі, лаўрэат Міжнародных конкурсаў балерына Таццяна Яршова, занятыя ў спектаклі, працуюць у незвычайным пакуль для нашага тэатра жанры — трагікамедыі псіхааналізу. Гэта першая работа тэатра-студыі Р.Таліпава на беларускай мове.**

**НА ЗДЫМКУ: Віктар МАНАЕЎ (справа) з рэжысёрам-пастаноўшчыкам спектакля Рыдам ТАЛІПАВЫМ.**

**Фота А.НІКАЛАЕВА.**

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

* * *

## ГАЛІНА ДРЭВА МІЦКЕВІЧАЎ

# ДЗЯДЗЬКА МІХАСЬ

У майго дзеда Міхала Казіміравіча Міцкевіча дзеці раслі, як баравікі ў цяністым сасняку, што непадалёку ад славутай Альбуці. Пяць братоў і чатыры сястры гукалі на нёманскіх прасцягах. На словах цёткі Мані, самай малодшай з роду Альбуцкіх (так, на мікалаеўскі лад называлі родзічаў Якуба Коласа), "Міхась радзіўся і гадаваўся на Парэччы сярод дарослых, таму і быў крыху разбэшчаны, бо ўсе яму патуралі і любілі, асабліва дзядзька Антось, які сцяною стаяў за пляменніка і браў яго з сабою рыбу лавіць, бярозавы сок "спускаць", паказваў норы барсукоў, гойсаў з ім па лесе..."

Цётка Маня, самая малодшая ў сям'і Міхала, сядзела на лаўцы каля сваёй хаты, якая прымасцілася каля маладога сасняку. Ёй ужо 92... Гады шаноўныя, але памяць учэпістая, і зрок захаваўся, толькі твар збаранаваны, а сама яшчэ рухавая. Яна слухала гаманлівы Нёман, які, як рукою падаць, коціць свае хвалі, падымаючы берагі выпасу-лугу, што цягнецца ўздоўж ракі. Яе цёмныя вочы неяк па-арлінаму ўглядаліся ўдалячынь, дзе шумяць дубы-волаты Бернявецкага лугу, а там за Кнінамі яе вясна-калыска, радзімы куточак Альбуць, жывыя карані нязгаснай памяці і смутку па родных і сэрцу мілых сцяжынках, звонкае журчанне "крынічкі—вузенькае ложа"... Пад глухі, таямнічы пошум маладога лесу я слухаў успамін.

Міхась і Маня, як самыя малодшыя, трымаліся разам, гулялі вакол хаты пад шатамі дубоў, пакуль малыя былі, часам дзядзька Антось браў іх у лес, вазіў у чоўне аж да Нёмана на быстрацечнай крынічцы. Здаралася, прыносіў вожыка, а то і жывую вавёрку, часцей за ўсё акраец "зайцавага хлеба", вельмі жаданага і смачнага. Але ж з гадамі мужчынская парода брала сваё: Міхаська круглы, як гарбуз, гойсаў па лесе, свістаў ужо ў чатыры пальцы, знаходзіў птушыныя гнёзды, лісіныя норы, збіраў добра грыбы, і толькі баравікі. Трымаўся мужчынскай кампаніі. Сябраваў з дзедам Сачком ( на мікалаеўскі лад), а так з Дзямідавічам, заядлым рыбаком, чытаў яму па складах казкі, якія навёз з Нясвіжа брат Кастусь, а дзядзька Антось вучыў здольнага пляменніка першай грамаце. І ў Мікалаеўшчынскай пачатковай школе вучыўся лёгка, без прымусу. Улетку, пасучы каровы на Буданскім лузе, браў з сабою кнігу казак Льва Талстога, уладкоўваўся на тоўстым суку пад зялёнай купчастай шапкай дуба і чытаў запоем. Аднойчы так зачытаўся, што забыўся пра сук, на якім сядзеў, падхапіўся і кулем паляцеў на зямлю. Сястра Маня насміхалася над братам, прыгаворвала: "Ах, вы, граф Толстой несчастный". За што Міхась не раз цягаў сястру за косы, нават склаў ёй верш:

**Сядзіць Маня на ложцы пры сцяне,**
**Косы, як лейцы, цягаць добра мне.**

Гэтая падзея мела месца, калі Міхась ужо збіраўся паступіць у Нясвіжскую семінарыю і, сапраўды, моцна паважаў вялікага рускага пісьменніка, але ўедлівая Маня не раз выбівала яго з каляіны, і тады ганяўся за ёю аж да Кліноў.

Настаўніцкую семінарыю скончыў у 1917 годзе, але мала працаваў у школе. Усчалася грамадзянская вайна, малады Міцкевіч стаяў на раздарожжы, не мог прыняць для сябе рашэнне. Разабрацца ў гэтым вэрхале сялянскаму хлопцу было няпроста, ды вайна фактычна не дайшла да глухога Панямоння, хоць сёй-той з мікалаеўцаў удзельнічаў у гэтай бойні на баку бальшавікоў. Калі быць шчырым, не ляжала душа да тых, хто хацеў разрушыць "мир до основания". Пакутную Беларусь раскалолі на Усходнюю і Заходнюю. У Заходняй засталіся палякі, тут у Смольні жыў дзядзька Міхась, стаў працаваць на зямлі, а яго браты Кастусь, Алесь і сястра Алена — у "Саюзе непарушным". Пасля смерці маці Ганны (яна жыла пры Юзіку) малодшы брат збудаваў сваю сялібу-хутар правей Стаўбцоўскай дарогі пры самым сасняку. Меў пару гектараў пуставатай зямлі-барабяны і лужок для выпасу хатняй жывёліны. Часта сваю гаспадарку давяраў майму бацьку або сваяку Прускаму, якога НКВД у ноч 1940 года забрала назаўсёды... Тады дзядзька прыехаў на калёсах і забраў стрыечную сястру з дзецьмі да сябе на хутар. Ён, як і дзядзька Антось, не шукаў сабе жонку, хоць сватаў было, дай Божа. У кожнай дзяўчыне заўважаў якую-небудзь ганьбу: то смяецца многа, толькі палец пакажы, то шмат гаворыць, то моцна сапе носам, то крокі шырокія робіць... Каржакаваты, шыракаплечы, лабасты, з доўгім шырокім носам, са смяшынкай Коласа, ён часам гарачыўся ў гутарцы, любіў пажартаваць, трапна падбіраючы словы. Гаварыў з прыціскам у галасе, надаваў кожнаму слову асаблівы сэнс. Адбіваючыся ад розных сватцяў, гаварыў пафіласофску:

— Чалавечына! Адна душа ў боце, другая ў жываце, а трэцяя па свеце ходзіць ды людзей зводзіць, а чацвёртай мне зусім не трэба, пражыву бабылём, як дзядзька Антось.

Дзядзька часта заходзіў зімовымі вечарамі да сястры Юзі, маёй маці, муштраваў сваіх шматлікіх пляменнікаў, даваў "квасу" за правінасць, асабліва за навуку, бо надаваў адукацыі вялікае значэнне. "Без навукі як бязрукі", — часта паўтараў ён. На розных сходках сярод маладых дома і ў іншых вёсках вёў прапаганду, каб родная мова не была мачахай для іншых беларусаў, каб не цураліся дзедаўскай спадчыны, ганарыліся сваёй нацыяй, каб "беларускае сонца свяціла і грэла беларусаў...". Не захацеў настаўнічаць у польскай школе, ламаць сваю мову на "жандовы ензык". Ён стаў руплівым гаспадаром. Працы не шкадаваў, кожны год збіраў камяні, добра ўгнойваў палеткі. Мікалаеўцы дзівіліся, што на гэтай пустэчы расло жыта ў рост чалавека, асабліва ўдавалася грэчка. Але не заўсёды сам дзядзька займаўся сваёй гаспадаркай, як гаварылася вышэй, яму дапамагалі сваякі. Грамадская справа вымагала шмат часу. Пад панскім гнётам нялёгка было абудзіць мужыка, каб ён разагнуў спіну, загукаў на поўныя грудзі за вольную Бацькаўшчыну. Калі гаварыць вобразна, Мікалаеўшчына гула. Малодшыя браты і сёстры не забыліся пра настаўніцкі з'езд каля Прыстанні, пра маёўкі ў Клешчыцах, дзе збіраліся былыя семінарысты, пісалі лістоўкі супроць існуючага ладу, спявалі рэвалюцыйныя песні. Сярод іх быў і малады Кастусь Міцкевіч, якому давялося пакаштаваць "царскага хлеба" ў мінскім астрозе. Хоць мяжа была на замку, але Міхась і яго аднадумцы мелі шмат рознай крамольнай літаратуры. Бальшавікі масіравана вялі прапаганду, рысавалі райскае жыццё ў Саветах. Дзядзька не зусім давяраў гэтаму раю, тым не менш арганізаваў самадзейны драматычны гуртох, дзе ставіў п'есы "Мікітаў лапаць", "Збянтэжаны Саўка", "Пінская шляхта", "Паўлінка". Сам браў галоўныя ролі, іграў, як заядлы артыст, выступаў у друку, высмейваючы панскія парадкі і польскі жонд. Не мог змірыцца, каб на працягах Бацькаўшчыны гаспадарылі фанабэрыстыя асаднікі, для якіх мужык непаўнацэнная асоба, бо ён хам цёмны і басотны, галадранец, слугач, парабак "польскего пожондку на крэсах всходніх". Яшчэ больш страшнае тварылася за мяжою, у краіне "жалезнай рукі", дзе гуляў чырвоны тэрор, знішчаў "ворагаў народа", у лік якіх трапіў родны дзядзька Міхася Язэп Лёсік, Аляксандр Сянькевіч, або Алесь Садовіч, іншыя мікалаеўскія інтэлігенты. Старшыня рабоча-сялянскай грамады Браніслаў Тарашкевіч спаткаў сваю смерць у ГУЛАГу з мікалаеўскім чалавекам па прозвішчу Дзямідовіч. Не адзін дзесятак хлопцаў уцяклі за мяжу, ратаваліся ад паноў, а бальшавікі амаль усіх упарадкавалі, каб не шукалі лепшай долі. На тым свеце яны былі ўсе роўныя. Сярод тых, хто застаўся ляжаць у вечнай мерзлаце, пляменнік дзядзькі Міхася Алесь Белы. Калі грамадоўцы на пачатку сваёй дзейнасці імпанавалі настрою і духу дзядзькавай душы, то пасля таго, як вярхі гэтай арганізацыі прымкнулі да камуністаў Заходняй Беларусі, брат Коласа абурыўся, бо адраджэнне культурнай і духоўнай спадчыны трапіла ў бальшавіцкія цуглі. З абодвух бакоў — і палякі, і Саветы — пазбаўлялі беларусаў права людзьмі звацца, адбіралі яго мову, культуру. І ўсё ж прыход Саветаў восенню 1939 года дзядзька Міхась спаткаў з адкрытай душою. Пайшоў працаваць у народную асвету, стаў актыўным прапагандыстам роднага слова. Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам арганізоўваліся культурмейцы з вучняў старшых класаў, хаты-чытальні. Бацькі селі за парты, дзеці вучылі іх першай грамаце: пісаць, па складах чытаць. Людзі атрымалі надзелы зямлі, сенажаці, паверылі "самаму мудраму і вусатаму". Наступіла палёгка ў жыцці. Людзі хадзілі ўзрушаныя і ўцешаныя. Вёска сустрэлася з дэпутатам БССР, народным песняром і земляком Якубам Коласам. Савецкая ўлада дапамагла аднавіць вёску, якая згарэла дашчэнту ў 1940 годзе. Тым не менш трывога не пакідала сэрцы аднавяскоўцаў Міхася. Якуб Колас прыехаў не адзін. З ім у скуранках былі ахоўнікі з НКВД. Радня, якая сабралася праз дваццаць гадоў у хаце дзядзькі Міхася, не пагаварыла шчыра са сваім славутым братам, хоць і балела душа распытаць яго пра сваякоў, што жылі там, пра сваіх сыноў і іх сяброў, што ўцякалі ад панскага прыгнёту і ніякіх вестак ад іх не было. Якуб Колас стараўся не дакранацца гэтай тэмы. Толькі тайком даў зразумець Міхасю: тыя, хто ўцёк ад палякаў, сталі "ворагамі народа", і трэба чакаць бяды тут... Спадзяванні на лепшую долю і захаванне духоўнай памяці знікалі з кожным днём. Хапун, чорная машына, наводзіла жах. Кожны чакаў: каго сягоння? Ахвярамі станавіліся сумленныя людзі, руплівыя і дбайныя гаспадары. Выклікалі ў адпаведную ўстанову і дзядзьку Міхася, пагутарылі "по душам" і "далікатна" папярэдзілі, каб маўчаў. Відаць, аўтарытэт Якуба Коласа паспрыяў таму, каб не трапіў на тыя Салаўкі, адкуль рэдка хто вяртаўся дахаты.

Не здрадзіў сваім землякам Міхась Міцкевіч і ў гады фашысцкай навалы. Ён зноў працуе ў народнай асвеце. У Мікалаеўшчыне дырэктарам школы становіцца сваяк і сябар Якуба Коласа Ігнат Юр'евіч Міцкевіч, выкладае рускую мову. Усе астатнія прадметы, як у дваццатыя гады, на роднай мове. Дзядзька Міхась быў задаволены, што матчына мова загучала на поўныя грудзі ва ўсіх школах Стаўбцоўшчыны. Праўда, у многіх вёсках заняткі праводзіліся па хатах, партызаны чамусьці школы спалілі. У гады нямецкай акупацыі дзядзька застаецца самім сабою. Дбае пра нацыянальную культуру, мову і ў той час падтрымлівае сувязь з партызанамі, якіх было шмат у Мікалаеўшчыне. У яго хаце жылі колькі савецкіх палонных, пазней яны станавіліся ляснымі мсціўцамі. Пра гэта ўспамінаюць сувязныя Антоцкая, Вязаўцава. Карная экспедыцыя праехала міма вёскі, хоць і была важная прычына на расправу з мікалаеўцамі: партызаны з дапамогай паліцыянтаў (двое з іх служылі немцам па заданню партызанскай разведкі) спалілі пастарунак, некалькіх паліцыянтаў узялі ў палон. Інфармацыя ў стаўбцоўскую камендатуру паступіла назаўтра: вялікая група партызан, што кіравалася ў Налібоцкую пушчу, наткнулася на гэты пастарунак, бо там п'яныя паліцыянты усчалі страляніну дзеля забавы... На самай справе ўсё было інакш. Сцэнарый, прадуманы ў Стоўбцах разумнай галавою, прайшоў удала.

1944 год стаў паваротным годам у асабістым жыцці дзядзькі Міхася. Ён развітваецца з радзімай назаўсёды... Баючыся рэпрэсій з боку гаспадара вялікага ГУЛАГа і, па словах цёткі Мані, "каб не паў цень на Костуся", выехаў на Захад. Спачатку прыпыніўся ў Чэхаславакіі. Зарабляючы сабе на хлеб, успомніў навуку дзядзькі Антося, які прышчапіў здольнаму пляменніку любоў да цяслярскай і бондарскай справы. Пазней эмігрант-уцякач, а калі шчыра — выгнаннік, апынуўся ў Заходняй Германіі. Ён і там не сядзеў склаўшы рукі. Як піша Міхась Тулейка, таксама эмігрант: "Міхась Міцкевіч усё сваё жыццё за межамі Бацькаўшчыны быў дзейны і вельмі ахвярны. Меў немалы пісьменніцкі талент. Быў адным з арганізатараў Беларускага Нацыянальнага камітэта ў Нямеччыне адразу пасля ІІ-й сусветнай вайны..." У Германіі дзядзька жыў у лагеры для перамешчаных асоб, вучыў дзяцей у беларускіх школах, працаваў інспектарам школ, якія дзейнічалі ў лагерах. З 1950 года брат Якуба Коласа пераязджае на пастаяннае жыхарства ў Нью-Йорк. І тут не прыпыняе сваёй актыўнай дзейнасці па адраджэнню матчынай мовы, каб не забываліся беларусы-выгнаннікі і іх дзеці пра гоман родных цяністых бароў, маці-Радзіму, яе гісторыю і звычаі, каб мелі гонар беларусамі называцца. У Нью-Йорку займаецца навукова-даследчай працай. Піша чытанкі для вучняў малодшага ўзросту, даследуе творчасць Якуба Коласа, узяўшы за аснову "Новую зямлю". Пільна сочыць за перыядычным друкам на Бацькаўшчыне. У шаноўныя гады становіцца глыбока веруючым. Ён быў не толькі рэдактарам газеты "Беларус" у свабодным свеце (пэўны час выдаваў гэтае друкаванае слова на свае грошы), але і рэдактарам часопіса "Голас царквы". Быў сябрам Галоўнай управы БАЗА, апекуном Сабору Святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Йорку. Да канца сваіх дзён матэрыяльна дапамагаў царкве. Ягоны пляменнік Алесь, сын сястры Міхаліны, даглядаў дзядзьку, калі ён моцна занядужаў і не мог падымацца з пасцелі... Памёр Міхал Міцкевіч 25 кастрычніка 1991 года... Беларуская дыяспара і Бацькаўшчына страцілі вельмі шчырага, чэснага, справядлівага абаронцу нацыянальнай спадчыны, чалавека вялікай душы, які пакінуў глыбокі след у сэрцах тых, хто ведаў яго. Як дзеяч беларускай культуры і як пісьменнік, публіцыст, ён заслугоўвае, каб яго дзейнасць была глыбока даследавана і стала даступнай для нашчадкаў усіх беларусаў планеты, каб магіла на беларускім могільніку ў Іст-Брансвіку ў штаце Нью-Джэрсі стала вечным помнікам, жывой памяццю для ўсіх, хто шануе і любіць сваю нацыю... Больш за ўсё на свеце ён марыў аб сваёй старонцы, хацеў пачуць шум разгалістых дубоў, гоман хваляў Нёмана, крынічкі "вузенькае ложа", буслоў, што шпацыруюць па шырокім мурожыстым лузе, успамінаў сваё дзяцінства ў дзівосна-маляўнічай Альбуці.

Трэба думаць, псеўданім Антось Галіна Міхала Міцкевіча не выпадковы. Дзядзька Антось быў яго кумір і дарадца, самы блізкі сябар, таму, каб захаваць гэтую святую памяць, ён і назваўся Антосем Галінай, як прадаўжэнне роду Міцкевічаў. Літаратурную дзейнасць А. Галіна пачаў у 1918 годзе. Выступаў у друку з апавяданнямі, фельетонамі, галоўнай тэмай іх было жыццё сялян, семінарыстаў, фарміраванне нацыянальнай свядомасці. На зыходзе свайго жыцця ён пераклаў на беларускую мову Напрыстольнае і Паспалітае Евангелле, якое пачало друкавацца ў Амерыцы... Максім Гарэцкі высока цаніў творчасць Міхала Міцкевіча, ён пісаў: "Вельмі спадзейны і паважны публіцыст". Мікола Прускі, сваяк дзядзькі Міхася, выдавец часопіса "Беларускі свет" у Амерыцы, прыгадвае: "Дзядзька Міхась і Бацькаўшчына былі нібы параднёнымі... Гэта быў дабрадушны і цудоўны чалавек; вельмі патрыёт і любіў сваю Бацькаўшчыну, як нешта святое".

Па-ранейшаму растуць купчастыя дубы на Бервянецкім лузе, Нёман коціць хвалі ўдалячынь. Шамацяць лістамі старыя ліпы на падворку леснічоўкі. Сюды на паклон да аўтара "Новай зямлі" кожны год прыязджаюць тысячы людзей, каб далучыцца да вялікай духоўнай спадчыны паэта, прайсціся па шляху Коласа, які аздоблены літаратурнымі помнікамі, героямі паэмы. Майстэрскія рукі мастакоў таленавіта ўвасобілі неўміручыя вобразы родных і блізкіх мікалаеўцаў. І вельмі горка ўсведамляць, што свой вечны спачын брат Якуба Коласа знайшоў далёка ад роднай зямлі. Але трэба спадзявацца: знойдзецца самабытнаму і слаўнаму выгнанніку роду Міцкевічаў месца для літаратурнага помніка сярод герояў "Новай зямлі". Міхалава дрэва мусіць меиць і апошнюю галіну.

**Сымон БЕЛЫ.**

БЕЛАРУСЫ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

# "РОКАШ" НА КАЗАХСТАНСКАЙ ЗЯМЛІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Праз некаторы час паштальён зноў прынёс дасланае на мой адрас пісьмо з казахстанскага горада Прыазёрска. І зноў "Рокаш" быў не менш змястоўны, чым папярэдні. На адным дыханні прачытаў артыкул Алеся Баркоўскага з горада Якуцка пад загалоўкам "Змова беларусаў у Томску". З артыкула даведаўся аб агрэсіўнай сутнасці войнаў Маскоўскай дзяржавы супраць Вялікага Княства Літоўскага. Аказваецца, у 1647 годзе на Беларусі і Літве жыло 4 мільёны 540 тысяч чалавек, а ў 1667 годзе засталося 2 мільёны 340 тысяч. Многія нашы продкі былі перасялены ў Сібір, дзе з часам асіміляваліся, таму "немагчыма было адрозніць беларуса ад маскоўца". Прычым, перасяленцы з нашых земляў, якіх называлі "літвой", былі больш адукаваныя і культурныя, чым мясцовыя жыхары. Далей у артыкуле расказвалася пра тое, як у 1634 годзе ў Томску запалоненыя "ліцвіны" дамовіліся ўцячы на радзіму з чужацкай няволі. Але змова была раскрыта, і ўсе яе арганізатары былі схоплены і пасаджаны ў турму. Пасля катаванняў іх судзіў ваяводскі суд, і 12 абвінавачаных у змове былі павешаны.

Наступны нумар газеты прыйшоў пасля працяглага перапынку. Аб прычыне паведамлялася ў кароткім звароце да чытачоў: "Рэдактар знаходзіўся на сесіі, а ў яго адсутнасць газета была забаронена. Але за гэты час не заціхла нацыянальнае жыццё ў Прыазёрску. Працягваліся заняткі, і паспяхова завершаны навучальны год у беларускай нядзельнай школе. Беларускія дзеткі прынялі ўдзел у конкурсе на веданне гісторыі Беларусі, наладжаным культурным асяродкам "Беларусь" г. Алма-Аты і занялі: Максім Суднік 3-е, а Лена Бязрукава — 8-е месцы".

Тут жа змешчаны вершы Лены Бязрукавай, якая, як сведчыць кароткая прыпіска, ад пяці гадоў жыла за межамі Беларусі, а потым пераехала ў Мінск, скончыла 9 класаў. Хочацца прывесці адзін з вершаў Лены Бязрукавай — "Беларусь":

**Крыштальныя росы ў красуючых травах,**<br>
**Спеў птушак вясёлы ў зялёных дубравах.**<br>
**Ружовыя кветкі, каштанаў карункі,**<br>
**Спрадвечныя маці-прыроды малюнкі.**<br>
**І поўныя сінню-блакітам нябёсы,**<br>
**З палямі, барамі з'ядналыя лёсы.**<br>
**Духмяныя роднае вёскі адрыны,**<br>
**Суніцы, чарніцы, брусніцы, ажыны...**

Паэтычныя здольнасці дзяўчынкі, несумненна, абудзіліся пад непасрэдным уплывам заснавальніка і аднаго з педагогаў школы, рэдактара "Рокаша" Станіслава Судніка. Ён, аказваецца, сам здольны паэт, выдаў два зборнікі вершаў. У чацвёртым нумары часопіса "Полымя" за мінулы год надрукавана вялікая падборка яго вершаў, прасякнутых ідэямі нацыянальнага патрыятызму. А таму для мяне не было нечаканасцю ўбачыць у апошнім атрыманым мною нумары "Рокаша" /жнівень-верасень 1992 г./ невялікую паэму С. Судніка "Рацібор". Названа яна па імені галоўнага героя твора, маладога волата Рацібора, які бясстрашна ўступае ў бой з чужынцамі, што намагаліся запаланіць старажытны горад, які стаяў "за лясамі, за барамі на крывіцкай зямлі".

Калі перачытваю яшчэ раз старонкі газеты, то міжволі лаўлю сябе на думцы: гэта вельмі добра, што і ў вайсковым асяроддзі, далёка за межамі нашай вольнай старонкі, ёсць нямала адданых сыноў Бацькаўшчыны, якім "сняцца сны аб Беларусі". Такія патрыёты, як Станіслаў Суднік, — гарантыя будучыні нашай маладой суверэннай дзяржавы, якая здолее заняць "свой пачэсны пасад між народамі".

**Віктар НЕСЦЯРОВІЧ,**<br>
**супрацоўнік лагойскай раённай газеты "Родны край".**

## ЗІМОВЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ

Усю ноч ішоў і ішоў снег. Толькі пад раніцу, відаць, прытаміўся, таму супакоіўся. Стала ціха, нерухома, неба празрыстае. Ясны дзень адкрыў светлыя вочы. Дзе ж уседзіш дома ў такую раніцу.

Я выйшаў за вёску. Лагодны марозік цалаваў шчокі і нос. Наперадзе бела-бялюсенька, аж вочы коле, ні плямкі, ні кропкі, ні слядка. Пайшоў па цаліку, за мною заставаліся сляды ад утаптанага снегу. Ён пабяліў і лес. Пад белым густым покрывам схавалася чаруючая зеляніна ялін і хваін. Каля лесу, дзе была дарога, ужо хтосьці паспеў пракласці адзінокі санны след.

Няведама адкуль над галавою з крыкам закружыліся два гракі. "Чаго яны крычаць! — падумаў. — А, вось чаго: "Прэч адсюль, — крычаць мне".

Толькі я адышоўся, яны селі на дарогу, падскокам падбеглі да чорных галак і заўзята пачалі дзяўбці.

"Не часта бывае такая каштоўная знаходка ў снежную пару", — падумаў.

Я перакананы: хоць людзі і занятыя, але кожнаму трэба пабываць у лесе ва ўсе поры года, нават зімою, каб паназіраць, як спяць дрэвы — і ніякага ў іх клопату.

Зайшоўшы у лес, пастой у цішы і пабачыш незабыўныя малюнкі: на бярэзіне чамусьці затрымаўся адзінокі лісток, на ялінах багатыя гірлянды шышак, арэшына ўжо гадуе завушніцы, пачуеш стук дзятла або сумнае ціўканне сінічак. Калі пашанцуе, убачыш, як вавёрка цярэбіць шышкі, і толькі лупінне сыплецца на бялюткі снег. Або як заяц-бяляк, уцёкшы ад лісіцы, сеў задаволены пад суседняй ялінаю зыркае чырвонымі вочкамі.

Такое таямнічае мастацтва прыроды чалавек не здольны зрабіць. Гэта пад сілу толькі ёй.

Назіраеш, і аднекуль крадзецца такая думка: "Лес і ўсё, што ў ім, створана прыродаю раней, чым чалавек. Вось чаму чалавек існуе для іх. Ён абавязаны берагчы іх усімі сродкамі. Інакш прырода адпомсціць яму за пакрыўджанае сваё багацце. і ўжо помсціць, прыгледзьцеся!

* * *

Я вельмі люблю марозны зімовы надвячорак. Ён непаўторны: апошнія стомленыя промні заходзячага сонца, празрыстая цішыня, першыя нясмелыя зоркі на далёкім-далёкім небе. У думках хочаш спазнаць неразгаданы прастор: а што там у вышыні!

А тут на зямлі рыпіць снег пад нагамі, дыхае сталёвым холадам, пахне шэранню. Мароз, нібы пад мілагучную музыку, малюе свае карункавыя ўзоры на вокнах. Цішыня такая, што нават явар над Нёманам не шэпча сваю адвечную сумную песню і павольна набірае на сябе шэрань, нібы апранаецца, каб не застудзіцца.

І калі задаволішся ўбачаным, глянеш на вёску: з комінаў хат высока ў неба раўнютка ўздымаюцца слупы дыму, на хаты глядзяць невядомая сіняя глыбіня і мноства яркіх зорак.

Толькі тады адчуеш сілу марозу, захочацца ў хатняе цяпло. Уражанне доўга валодае табою.



* * *

Пасля працяглых марозаў раптам заадліжыла. Наплылі цёмныя хмары, паваліў мокры густы снег. Час ішоў, а снег сыпаў і сыпаў, умомант закрыў сляды, дарогу, сняжынкі ліплі на дрэвы, адзенне.

У бары, дзе змешаны лес, найцяжэй дасталася маладым гонкім соснам і бярэзінам. Ад цяжару наліпшага снегу дрэвы, у якіх не было падтрымкі суседзяў, гнуліся, некаторыя ламаліся.

Вось над прасекаю сагнулася высокая танклявая бярэзіна. Яе верхавіна дастала аж долу, утварыўшы арку. Далей яшчэ і яшчэ. Лёс іх незайздросны: яны ахвяры стыхіі.

"Чаму так дзеецца ў прыродзе! — падумаў сам сабе. — Такая з'ява толькі ў густым лесе. Дрэвы, імкнучыся да сонца, абганялі адно аднаго, не клапаціліся аб моцы цела. Вось цяпер і адплата за неразумна пражытыя гады".

Дрэвы, якія растуць адзінока ці на ўзбочыне лесу, калі з маленства вытрымлівалі непагадзь, стаяць моцна, упэўнена. Густое голле, якое яны нагадавалі, абараняе іх ад вятроў-навальніц.

Відаць, так і людзі. Парніковае выхаванне не гадуе моцных у жыццёвай непагадзі людзей. Яны не вытрымліваюць стыхій жыцця.

**Яўген КРАМКО.**

## 600-годдзе ПРЫНЯЦЦЯ ПАСАДУ

**"Княжаньне Вітаўта лічаць**<br>
**усе летапісцы**<br>
**Росквітам княства Літоўскага,**<br>
**нашага краю,**<br>
**І называюць твой век залатым..."**

Гэтыя словы Міколы Гусоўскага сталі эпіграфам вечарыны, прысвечанай 600-годдзю прыняцця вялікага пасаду Вялікага Княства Літоўскага Вітаўтам Вялікім (1392—1992 гады), якая адбылася ў Доме літаратара. Мерапрыемства было арганізавана і праведзена камісіяй па культуры і гісторыі БНФ "Адраджэньне" і Домам літаратара.

Вечарыну вяла пісьменніца Вольга Іпатава. Аб прыняцці велікакняжацкага пасаду Вітаўтам Вялікім гаварылі навукоўцы Іван Саверчанка і Алесь Краўцэвіч, сябра Беларускага згуртавання вайскоўцаў падпалкоўнік Мікола Статкевіч і іншыя.

Легенду пра Вітаўта чытала В. Іпатава, а паэт Алесь Пісьмянкоў прачытаў свой верш "Дума Вітаўта", выступіў таксама паэт Віктар Шніп.

Артысты акадэмічнага купалаўскага тэатра Фама Варанецкі і Юрый Авяр'янаў выканалі дыялог "Вітаўт і Ягайла", а Уладзімір Рагаўцоў — верш народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, прысвечаны гэтай гістарычнай даце.

На вечарыне выступіў харэаграфічны ансамбль "Харошкі".

**Г. ПЕТРУСЁЎ.**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**СЕВЕРИНА (Викко) Наталья Ивановна** разыскивает родственников, двоюродных братьев своего отца **ВИККО Ивана Николаевича**, который родился в 1912 году в Нью-Йорке.

В 1947 году **Ольга ГОНЧАРИК** (урожденная **Сушко**) проживала с семьей по адресу:

Mr. and Mrs. Tony Honcharik 915 no. 4 th. St. Minneapolis Mjnn U.S.A.

Ольга в 1931 году второй раз вышла замуж за **Антона ГОНЧАРИКА**. Были дети: старший сын **Иван, Михаил**, потом дочь **Мария,** сын **Александр** и дочь **Анна.** Известно, что три сына участвовали во второй мировой войне, остались живы. Двое уже были женаты, дочери были замужем. В 1947 году они сообщили о себе, потом связь прервалась.

Ищем также брата **Ольги Степана СУШКО,** проживающего по адресу:

3339 Waskburn av. No. Minneapolis Minn U.S.A.

Всех, кто знает что-нибудь о семье **ГОНЧАРИК** или **СУШКО,** просим сообщить по адресу:

Республика Беларусь, г.Минск, ул.Бакинская, 40, кв.11.

**СЕВЕРИНОЙ-ВИККО Наталье Ивановне.**



**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 5 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 58. Падпісана да друку 19.01.1993 г.**